


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

28 мая 2004 года

№22 (473)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёну



### Новы старшыня

**СМАРГОНЬ.** Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, Аляксандр Лукашэнка даў згоду на прызначэнне старшынёй Смаргонскага райвыканкама **Мечыслава Гоя.** Ён працаваў старшынёй сельгаскааператыва "Агра–Праважа" ў Варанаўскім раёне.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Перамога віляйчан

**ВІЛЕЙКА.** Узорны духавы аркестр Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў пад кіраўніцтвам **Фёдара Гура** на рэспубліканскім конкурсе духавых аркестраў у Баранавічах заняў 1 месца ў сваёй падгрупе. Акрамя віляйчан, у конкурсе ўдзельнічалі 4 дарослыя і 2 дзіцячыя калектывы.

**Святлана ЦІШКО.**

### Дом без даху

**АШМЯНЫ.** У вёсцы Гальгінішкі ўвечары 22 мая загарэўся дом. У выніку пажару згарэў дах, абгарэлі перакрыцці. Міліцыя праводзіць праверку.

**Святлана ЦІШКО.**

### Ледзь выратавалі

**АСТРАВЕЦ.** Ад самаробнага абагравальніка загарэлася кватэра. Аднапакаёўка выпаленая знутры. Ледзь "адкачалі" спячага гаспадара суседняй кватэры, якая аказалася задымленай.

**Ірына РАБУШКА.**

### «Дзеці – дзецям»

**МЯДЗЕЛ.** Сёння пачынаецца дабрачынная акцыя "Дзеці – дзецям". На працягу тыдня дзеці змогуць перадаць свае вырабы, сувеніры, кнігі, якія ўжо прачыталі, у прытулак, а таксама равеснікам з абмежаванымі магчымасцямі, якія не ходзяць у школу і пазбаўленыя зносінаў з аднагодкамі.

**Святлана ЦІШКО.**

### Чэмпіён у Валожыне

**ВАЛОЖЫН.** Валожынец майстар спорту старшы сяржант **Ігар Лоўчы** стаў чэмпіёнам у асабістым першынстве ў вагавой катэгорыі 75 кг на чэмпіянаце, што прайшоў у Віцебску, сярод каманд паветрана-дэсантных войскаў і сіл спецыяльнага прызначэння Беларусі. Валожынская каманда заняла II месца.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Свята дзяцінства

**МАЛАДЗЕЧНА.** 29 мая ў гарадскім парку пройдзе свята, прымеркаванае да Міжнароднага дня абароны дзяцей. Будуць працаваць 9 пляцовак. Гарвыканкам выдаткаваў на свята больш за мільён рублёў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Забойства ў Кумпянах

**АСТРАВЕЦ. У вёсцы Кумпяны, у хляве аднаго з падворкаў, 12 мая супрацоўнікі пракуратуры знайшлі труп гаспадара, 37-гадовага Віктара Х. Цела было закапана ў гной. На шыі – рана ад удара сякерай. Жонка памерлага, 29-гадовая Людміла, прызналася ў забойстве мужа і сама паказала месца, дзе схавала цела.**

Адзначаць майскія святы пачалі ў красавіку. Да Людмілы ў госці з суседніх Смілгоў завітала сяброўка Валянціна. Спачатку пілі ўдзвюх, потым да іх далучыўся муж Люды – Віктар. Суседзі кажуць, што запой вясёлай кампаніі працягваўся не менш за два тыдні. У нейкі момант людзі пачалі заўважаць, што гаспадар не з'яўляецца ні на падворку, ні на вуліцы. На работу, у СВК «Палушы», дзе ён працаваў трактарыстам, таксама не прыходзіў. «З ім здаралася такое і раней, – сказала брыгадзір **Ганна Тарашкевіч,** – цвярозы – нармальны чалавек, працавіты. Трымаў гаспадарку, усё нёс у хату. Добра працаваў на пасяўной, не піў, хадзіў з жонкай на бурты перабіраць бульбу. Гарэлка мяняла чалавека. Рабіўся нібыта шалёны. Біў жонку, якая, дарэчы, у яго трэцяя, суседзяў. Мог зайсці ў хату да састарэлай бабулі, забраць ежу, з'есці, потым кінуць каструлю ёй у агарод. А старую зачыніць у хаце і ключ выкінуць у студню. На працы мог не з'яўляцца два-тры дні. Але людзі тамсам яго бачылі. Цяжка не заўважыць буяна, які тэрарызаваў палову вёскі. А на гэты раз ён знік. Я спыталася ў Люды, дзе Віктар. Яна сказала, што пайшоў за гарэлкай і не вярнуўся».

Неяк раніцай каля хлява Людміла з сяброўкай Валяй палілі падушкі. На пытанне суседзяў, навошта яны гэта робяць, жанчыны адказалі: «Віця загадаў, каб спалілі, бо яны ўжо старыя і смярдзяць». Смурод на самой справе быў не нейкі характэрны для палення пер'я. Пазней высветліцца, што да яго прымешваўся пах гарэлых згусткаў крыві...

6 мая ў бухгалтэрыі СВК «Палушы» Людміла і Валянціна атрымалі 210 тысяч рублёў – зарплату Віктара і дапамогу на дзяцей. У яго ад трох шлюбаў іх было пяцёра. Здзіўляла тое, што мужчына не з'явіўся сам. Звычайна ён не давяраў жонцы ў грашовых справах. Тым часам людзі пачалі непакоіцца. Пакуль жанчыны хадзілі ў Палушы, нехта з суседзяў праз акно залез у хату, але нічога падазронага не знайшоў. Зазірнулі ў хлеў – таксама нічога. Сяброўкі ж, калі вярнуліся дахаты, прадоўжылі п'янку далей. Да 12 мая, пакуль не прыехала міліцыя. На першым допыце нецвярозыя забойцы прызналіся ў злачынстве.

Пасля тыдня запою Віктар ужо не ўставаў з ложка. Прачнецца, жанчыны паднясуць яму чарку, ён вып'е і спіць далей. Калі прачнуўся ў чарговы раз, загадаў жонцы прынесці сякеру. Мауляў, скончу піць – засяку. Па словах Людміл, Валянціна шэптам параіла ёй не чакаць, пакуль муж пачне яе забіваць. Раней судзімая сяброўка нібыта нават паказала месца на шыі, куды лепш ударыць, каб ён хутчэй памёр. Мужчына не спаў, але вочы былі заплюшчаныя. Люда дакладна памятае, што стукнула 2 разы. Ці біла больш – не ведае. Не ўспомнілі таксама, у які дзень адбылася трагедыя. Усё змяшалася ў п'яным чадзе. У пратаколе запісана, што забойства адбылося ў перыяд з 2 па 8 мая. Дакладна цяжка вызначыць нават пры дапамозе экспертызы: цела ляжала не на адкрытым паветры. Але, калі ўлічыць, што 6 мая сяброўкі самі атрымалі грошы, можна прыйсці да высновы, што ў гэты дзень Віктара ўжо не было ў жывых.

Пасля забойства адмывалі кроў, палілі падушкі і адзенне. Ноччу перанеслі цела ў хлеў і закідалі гноем. Тут паказанні жанчын не супадаюць. Валянціна сцвярджае, што не раіла Людміле забіваць мужа. Таксама не дапамагала прыбіраць у хаце і пераносіць цела ў хлеў. У гэтым можна сумнявацца. Вага Віктара была больш за 100 кілаграмаў. І наўрад ці адной жанчыне пад сілу такая работа.

«Мы дакладна ведаем, – сказаў следчы Астравецкай пракуратуры **Іван Скроб,** – што Віктар Х. забіла жонка, бо яна сама ў гэтым прызналася. Цяпер вызначаем долю ўдзелу ў гэтай справе раней судзімай Валянціны. Хто з дзвюх жанчын кажа праўду, пакажа следства».

7-гадовую дачку Віктара і Людмілы яшчэ да трагедыі забрала да сябе сястра Люды. Хавць Віктара прыязджала яго сястра. Сёння ў іх хаце ніхто не жыве. Дзверы не замкнёныя, проста прышчэптыя калодкай. Гаспадар сюды ўжо не вернецца. Ці вернецца гаспадыня, а калі вернецца, то праз які тэрмін, вырашыць суд.

Па дадзеных пракуратуры, з пачатку года ў Астраўцы і раёне былі здзейсненыя два забойствы. У 2003 — адзін замах на жыццё. За 2002 – пяць забойстваў. У большасці выпадкаў гэта бытавыя злачынствы, якія адбываюцца пасля сумесных п'янак. Дзеці забіваюць бацькоў, жонкі – мужоў і наадварот. Але былі выпадкі, калі адзін знаёмы забіваў другога з-за грошай.

Усе названыя забойствы раскрытыя пракуратурай.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**



Хата ў вёсцы Кумпяны, дзе адбылося забойства Віктара Х., і хлеў, у якім жонка закідала гноем цела забітага.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

### «Полька беларуская»



Аўтар вядомых беларускіх песень паэт Леанід Дранько-Майсюк завітаў у Маладзечна. На сустрэчы прысутнічаў журналіст "РГ".

2-я старонка

### Не да жыру...



У краінах СНД ад 20 да 40% насельніцтва ў цяперашні час галадаюць. Колькі галодных у нас?

3-я старонка

### Залессе Агінскага



Дзень правяла ў Залессі, што між Маладзечнам і Смаргонню, карэспандэнт "РГ" Ірына Рабушка.

6-я старонка

■ СУСТРЭЧЫ

# Калі паэт пускаецца ў скокі

**МАЛАДЗЕЧНА. Полечка закруціла паэта Леаніда Дранько–Майсюка падчас яго сустрэчы з аматарамі паэзіі ў гарадской бібліятэцы імя Багдановіча. "Полька беларуская" на словы госця захапіла залу, але не менш і самога аўтара слоў. І ўскалявала.**

Дзякуючы салістцы народнага ансамбля народнай музыкі выкладчыкаў музычнай школы "Харашуха", якая танчыла з паэтам, той сказаў, што самае цудоўнае ў жыцці, калі нечакана дакранаешся да цудоўнай жанчыны.

– Люблю ездзіць у тралейбусе, але там дакрананне да жанчын – незаконнае, – пажартаваў Леанід Дранько–Майсюк. — А вось нашы танцы гэтыя дакрананні легалізуюць.

Сустрэчу з паэтам–песеннікам арганізавала 20 мая гарадская бібліятэка. Праходзіла вечарына пад лозунгамі "Чытайце беларускае", а таксама "Чытайце Леаніда Дранько–Майсюка".

Нягледзячы на тое, што арганізатары проста не паспелі шырока абвясціць аб вечарыне – дакладная дата стала вядомая ўсяго за некалькі дзён, у залу бібліятэкі змаглі прыйсці прыхільнікі таленту паэта самых розных узростаў.




Паэт Леанід Дранько–Майсюк расказвае прыхільнікам сваіх вершаў аб лёсе творцы, лёсе беларускай літаратуры.
Фота Тацяны БУЛАВЫ.

## Леанід Дранько-Майсюк

**Нарадзіўся 10 кастрычніка 1957 года ў Давыд-Гарадку на Століншчыне. Беларускі паэт. У 1982 годзе скончыў вучобу ў Літаратурным інстытуце імя Горкага ў Маскве. Друкуецца з 1972 года. Выдаў зборнікі вершаў "Вандроўнік", "Над пляцам", "Проза радости", "Места і свет", кніжку сатырычных апавяданняў "Пра тое, як я..." і іншыя кнігі. Як падае "Беларуская энцыклапедыя", "распрацоўвае тэмы творчасці, працы, кахання."**
**Адзін з самых вядомых сучасных беларускіх паэтаў–песеннікаў. Аўтар (разам з Ігарам Лучанком) вядомай "Полькі беларускай".**
**Сваю апошнюю кнігу выбранага назваў "Вершы. Каханне. Проза", вынесшы словы, якія звычайна паказваюць жанравую прыналежнасць твораў, у загаловак. Шматкроць удзельнічаў у фестывалях нацыянальных песні і паэзіі "Маладзечна".**

### Нараджэнне «Полькі беларускай»

Госць расказаў прысутным, як нарадзілася песня "Полька беларуская", якая стала папулярнай не толькі ў Беларусі.

**Ігар Лучанок**, які пачуў словы новага верша Леаніда Дранько–Майсюка па тэлефоне ад аўтара, напрамілы бог папрасіў паэта "не паказваць" твор нікому.

Паэт і кампазітар дамовіліся сустрэцца:

— І я перабег з вуліцы Леніна, дзе жыву, на вуліцу Купалы, дзе жыве Лучанок. Праз дзесятак хвілін абмяркоўвалі будучую песню. У Беларусі ж жыве варыянтаў 40 полькі...

І песня нарадзілася, ды такая, што пяюць яе не толькі са сцэны, але яна стала песняй амаль кожнага беларускага застолля. Салісты "Харашухі" гаварылі на развітанне з паэтам, што яны з вялікім поспехам вазілі "Польку беларускую" і за межы нашай краіны.

### Лятунак паэта

Фармальнай нагодай да сустрэчы з Дранько–Майсюком стала яго апошняя кніга "Вершы. Каханне. Проза", якая не так даўно пабачыла свет у выдавецтве "Харвест". "Мой лятунак – выдаць кніжку... выключна з матывамі кахання..." напісаў у 1925 годзе паэт Уладзімір Жылка, які вучыўся ў Карлавым універсітэце, да Антона Луцкевіча. Прайшоў час. Жылка прыехаў у Савецкую Беларусь, а ў пачатку 30–х яго забіла сталінская машына рэпрэсій.

Лятунак – мару – Жылкі споўніў Дранько–Майсюк. Уся кніга прасякнутая выключна матывамі кахання.

Паэт чытаў вершы, адказваў на пытанні, слухаў прызнанні маладзечанскіх паэтак у свой адрас. Магчыма, крыху бянтэжыўся ад шчырасці вершаваных радкоў у свой адрас.

### Пра Някляева

Размова тычылася і паэзіі, і паэтаў. Высока ацаніў ролю нашага земляка ўраджэнца Смаргоні **Уладзіміра Някляева**, назваўшы яго "паэтам нумар адзін сучаснай Беларусі". Адзначыў тое, што ўсё жыццё нашае сатканае з кампрамісаў, а Някляеў адчуў той момант, калі наступае рыса, за якую пераходзіць нельга. Някляеў, па словах Дранько–Майсюка, выратаваў і паказаў прэстыж беларускай літаратуры.

Някляеў, на думку Дранько–Майсюка, сёння знаходзіцца ў шэрагу такіх творцаў, як Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў...

### Беларуская мова

Паэт успомніў сваю асабістую, непублічную сустрэчу з Васілём Быкавым. Было гэта ў сярэдзіне 90–х. Тады яны сустрэліся, каб абмеркаваць магчымую публікацыю ў "ЛіМе" сваіх водгукаў на дзённікі былога дырэктара выдавецтва "Мастацкая літаратура" **Міхаіла Дубянецкага**. Васіль Быкаў спытаў тады Леаніда Дранько–Майсюка аб яго поглядзе на будучыню беларускай мовы. Погляды Быкава і Дранько–Майсюка, па прызнанні апошняга, тады разышліся:

– У дачыненні да беларускай мовы, – сказаў прысутным на сустрэчы Дранько–Майсюк, – я абсалютны і невылечны аптыміст.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

■ ТЭАТР

# «Сільвія» зноў на сцэне

**МАЛАДЗЕЧНА. Нядаўна ў Доме культуры чыгуначнікаў адбыўся паказ нашумеўшага ў свой час спектакля "Сільвія". Цяпер сваю версію гэтага спектакля прапанаваў гледачам народны тэатр Оршы, што гасцяваў у нашым горадзе.**

Сама п'еса ўжо досыць знаёмая гледачам, бо добра "раскручаная" нашым драматычным тэатрам, але ж заўсёды цікава пагладзець, ацаніць, асэнсаваць іншы погляд, другую трактоўку.

І, безумоўна, у рэжысёра-пастаноўшчыка **Васіля Мігаля** (ён жа сцэнограф і адказны за музычнае афармленне) гэта атрымалася адметна і адмыслова. Яму вельмі пашанцавала вынайсці сваё, арыгінальнае, і ў выніку атрымалася яскравае, "мабільнае" дзейства, а рускамоўнасць адаптацыі дазволіла часам "праваказаць" гледача, бо жарты атрымліваліся "на мяжы фолу". Але гэта зусім не падаецца вульгарным, наадварот, носіць рэалістычны характар, дазваляе разумець і прымаць жыццё навокал, як яно ёсць.

Наогул жа, "Сільвія" – гэта пра каханне, любоў, рамантычную свабоду, але не ад доўгу і абавязкаў, ўсялякіх там забабонаў. Гэта салодка-салёная прыгча з элементамі бэсціярыя (распавяданне ад імя жывёліны) і рэалістычны твор аб двуногіх і чацвераногіх жыхарах урбанізаванага свету, і амаль паэтычная казка...

Сабака Сільвія дорыць сваёму гаспадару Грэгу тую частку ўвагі, пяшчоты, разумення і кахання, якую ён даўно ўжо перастаў атрымліваць ад жонкі, дзяцей, навакольных... Гэта кампенсуе нястачу душэўнай раўнавагі, якая раз-пораз турбуе яго, і ўнутраны свет пацыху пачынае зіхацець і напаўняцца новымі фарбамі, але ж не на карысць зносінаў з сябрамі і начальствам, што прыносіць шмат прыгод і перажыванняў. Такая аснова сюжэту, але колькі падсвядомых плыняў можна адсачыць у гэтай на першы погляд не такой ужо і складанай п'есе! Тут ёсць і метафарычнасць, і псіхалагізм, і добры гумар, і іранічныя выпады, усё аздоблена добрай пластычнай акцёраў і вольнымі рэпрызамі.

Галоўную ролю выканала **Алена Дзеравянка**, яе Сільвія атрымалася жывой, жыццярадаснай і вясёлай, мабыць, дзякуючы прамяністай энэргетыцы самой актрысы. **Наталля Патрэй**, прафесійная і рознабаковая, выканала ў спектаклі аж дзве ролі – сяброўка Філіс і псіхіятр Лэслі. Вельмі дакладным быў Грэг **Генадзя Юнава**. Таксама здзейсніліся два дэбюты: **Алеся Селютава** (жонка Кейт) і **Дзмітрый Міхайлаў** (Том). Найлепшай падзякай іх працы была поўная зала расчуленых да слёз гледачоў і апладысменты стоячы "пад занавес". І гэта зразумела, бо як кожны "просты, але геніяльны" твор, "Сільвія" сцвярджае, што адрадзіць гэты свет можна толькі пачуццём пяшчоты да кожнай жывой істоты, што каханне, як шлях з цемры і адзіноты, побач, і трэба толькі не забывацца пра гэта.

**Тацццяна ШЭЛЕГ.**

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## Хай жонак самі выбіраюць

У цягнік яны ўвайшлі ўдваіх. Немаладая, можа, ужо і пенсійнага ўзросту жанчына і мужчына яе гадоў. Спыніліся, агледзелі вагон у пошуках вольных месцаў, селі насупраць мяне ля акна. Пад мерны стук вагонных колаў яхіх толькі гаворак ні вялі. Пра вёску, старых, нямоглых бацькоў, што ўсё яшчэ трымаюць гаспадарку і не даюць ім, сваім дзецям, якія ўжо самі дзядулі і бабулі, жыцця.

Непрыкметна пераключыліся на агульных знаёмых, унукаў. "Учора, — пачала жанчына, — сустрэла былую калегу. Ты куды, пытаюся. Да ўнучкі на дзень нараджэння, адказвае тая. Гляджу на яе, вушам не веру. Яшчэ два месяцы таму ў яе быў толькі ўнук. Аказваецца, сын ажаніўся. Узяў жанчыну з дзіцем. А яны і не працівіліся. Галоўнае – каб яму было добра".

"Разумная палітыка", — заззначыў мужчына і, пажадаўшы шчаслівай дарогі, развітаўся. "Во язык, — раззлавалася сама на сябе жанчына. Я ж зусім забылася на яго бяду. Расстроіла чалавека, бы нажом па сэрцы паласнула".

Некалі падобная гісторыя здарылася і ў яго сям'і. Сыну Сяргею было ўжо за трыццаць, калі сустрэў жанчыну, з якой захацеў звязаць свой лёс. На майскія святы прывёз яе да бацькоў, пазнаёміў. Прыгожая, разумная Ларыса не магла не спадабацца. І маці, як толькі засталася з сынам адзін на адзін, пайшла ў наступленне. Маўляў, не цягні, купляй пярсцёнкі, назначай дзень вяселля.

"Вяселля не будзе, — сумеўся Сяргей. — Ларыса ўжо была замужам, у яе ёсць пяцігадовая дачка, якую пакуль што выхоўвае бабуля. Распішамся, забяром яе да сябе, здымем кватэру і будзем жыць". З рук маці выпала талерка і разбілася аб падлогу, а разам з ёй шчасце сына, якому мама з татам так і не далі злучыць лёс з гэтай жанчынай".

"Ну, што скажаце?" — захацела жанчына пачуць маю рэакцыю. "Не ведаю, — пацiснула плячыма я. — Дзеці яшчэ малыя, ніколі нават не спрабавала прымерваць да сябе такую сітуацыю". "Тады скажу я, — рашуча заявіла спадарожніца. — Ніколі не трэба лезці ў справы маладых. З кім хочуць, з тым няхай і жэняцца, каго хочуць, таго няхай і ў жонкі бяруць. Тады не будзе на каго крыўдзіцца, на каго наракаць. Мой сын ажаніўся першы раз з дзяўчынай, з якой хадзіў у адзін клас. Ведалі адзін аднаго з маленства, а разам жыць не далі рады, разбегліся. Праз тры гады зарэгістраваў шлюб з жанчынай, у якой быў хлопчык. Думала, ніколі не палюблю. А ўзяла на рукі, прытуліла да грудзей і стаў сваім. Да іх сёння і еду."

"Беразінскае, выхад на правы бок", — аб'явіў машыніст. "Ну, бывайце", — развіталася жанчына і рушыла да выхаду. На прыпынку яе сустракалі маладая цяжарная жанчына і чарнявы хлопчык.



Разважала Марына СЛІЖ.

■ ХАРЧАВАННЕ

# Кожны пяты галадае

**У краінах СНД ад 20 да 40% насельніцтва ў цяперашні час галадаюць. Гэта канстатаваў эксперт харчовай і сельскагаспадарчай арганізацыі ААН (ФАО) па маніторынгу становішча ў краінах Еўропы Дэвід Сэдзік.**

З праблемай недахопу ежы, паведамляе TUT.by са спасылкай на газету "Новые Известия", сутыкаюцца сёння не толькі краіны Садружнасці. Нават у лепш забяспечаных краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія ў канцы XX стагоддзя перажылі змену палітычнай сістэмы, галадаюць 30 мільёнаў чалавек.

З краін, што нядаўна ўступілі ў Еўрасаюз, самае крытычнае становішча ў Латвіі і Славакіі: там галадаюць 5-6% ад агульнай колькасці насельніцтва. У Чэхіі, Венгрыі і Польшчы сітуацыя лепшая: колькасць тых, хто недаядае, вагаецца каля адзнакаў 1-2%. Самымі незабяспечанымі з'яўляюцца балканскія краіны, што імкнуцца ў ЕС, асабліва Харватыя, дзе галадаюць 12% насельніцтва. На думку экспертаў ФАО, ва ўсіх гэтых краінах галоўнай прычынай недахопу харчавання з'яўляюцца вельмі нізкія пенсіі і заработная плата.

Аднак "іх" беднасць у параўнанні з беднасцю ў краінах СНД – кветачкі. Нават у самых багатых краінах Садружнасці агульная колькасць тых, хто галадае, складае не менш чым 20% ад агульнай колькасці насельніцтва. А найгоршае на ўсёй постсавецкай прасторы становішча ў Арменіі і Таджыкістане: у іх ад непаўнацэннага харчавання пакутуе больш за 40% насельніцтва. Лепш у Азербайджане, Грузіі, Казахстане, Узбекістане і Кіргізіі – да 35% насельніцтва. У Беларусі, Туркменіі, Украіне і Малдове агульная колькасць людзей, у якіх харчаванне недастатковае, трымаецца на ўзроўні 20%. Аналізуючы прычыны такога становішча, эксперты ФАО кажуць не толькі пра нізкія зарплаты і пенсіі, але і пра павальнае беспрацоўе, якое дасягае 50-80% ад актыўнай часткі насельніцтва.

## Колькі галадае нашых землякоў

**Калі лічба 20% справядлівая для гарадоў нашага рэгіёну, атрымліваецца, што ў Маладзечне не могуць добра харчавацца прыкладна 19 тысяч чалавек, у Вілейцы – 6 тысяч, у Смаргоні – больш за 7 тысяч, у Валожыне – амаль 2,5 тысячы, у Мядзеле – прыкладна 1,5 тысячы, у Ашмянах – больш за 2,5 тысячы, у Астраўцы – 1,5 тысячы.**

**Святлана ЦІШКО.**



Пажылая жанчына есць хлеб на вуліцы Тбілісі. Грузія, восень 2003 года.
Фота ByMedia.Net

## Курсы валют НБ РБ

| | 20.5 руб. | 27.5 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2154,00 | 2153,00 |
| Еўра | 2585,45 | 2610,08 |
| Злоты | 549,63 | 558,64 |
| Літ | 748,87 | 755,76 |
| Расійскі рубель | 74,30 | 74,29 |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 2155/2170 | 2155/2170 |

Маладзечна
## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 19.5 | 26.5 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13900 | 13900 |
| Сасіскі, 1 кг | 5020 | 5020 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 1100 | 1100 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1400 | 1500 |
| Алей, 1 л | 2200 | 2200 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2400 | 2400 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 1000 | 1000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1100 | 1100 |
| Капуста, 1 кг | 380 | 400 |
| Морква, 1 кг | 300 | 300 |
| Лімоны, 1 кг | 2600 | 2750 |
| Апельсіны, 1 кг | 2300 | 2300 |
| Яблыкі, 1 кг | 1400 | 1400 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4900 | 4900 |
| Тварог, 1 кг | 2400 | 2400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1800 | 1700 |
| Сала, 1 кг | 3000 | 3000 |
| Бульба, 1 вядро | 1500 | 1500 |
| Бульба малад., 1 кг | 3900 | 3900 |

## Падаткі зменшацца

**МІНСК. У 2005 годзе ўрад плануе на два працэнты скараціць падатковую нагрузку на рэальны сектар эканомікі. Аб гэтым паведаміў першы намеснік міністра фінансаў Беларусі Анатоль Сверж.**

У прыватнасці Міністэрства фінансаў прапануе Савету міністраў адмяніць 4-працэнтны «чарнобыльскі» падатак і скараціць «падаткі з заробку». Гэтыя захады, сказаў А.Сверж, заклікаты вызначыць памеры рэальных зарплат у краіне.

**Паводле БелаПАН.**

## Расклад руху электрычак па ст. Маладзечна з 30 мая 2004 года

| Маладзечна адпр. | Мінск прыб. | без прып. | Мінск адпр. | Маладзечна прыб. | |
|---|---|---|---|---|---|
| **4.05** | 6.00 | Сел., Крын. | **4.37** | 6.11 | |
| **5.12** | 7.00 | | **5.22** | 7.07 | |
| **5.53** | 7.40 | Сел., Крын. | **6.40** | 8.15 | |
| **6.26** | 8.15 | | **7.33** | 9.28 | |
| **7.22** | 8.54 | Рам., Дуб., Прал., Вяз., Ан., Хмел., Зял., Крыж., Рат., М.Мора | **8.20** | 10.09 | |
| **8.33** | 10.23 | | **9.11** | 10.58 | |
| **9.43** | 11.35 | | **10.00** | 11.50 | |
| **11.08** | 12.59 | | **11.11** | 12.59 | |
| **12.09** | 13.52 | птн., вых., Рам., Хмел., Зял., Крыж. | **12.38** | 14.27 | |
| **12.46** | 14.37 | | **13.34** | 15.23 | |
| **13.51** | 15.40 | | **14.51** | 16.29 | птн., вых. |
| **15.07** | 17.00 | | **15.22** | 17.09 | |
| **15.50** | 17.40 | | **16.30** | 18.18 | |
| **16.51** | 18.40 | | **17.44** | 19.31 | |
| **17.48** | 19.35 | | **18.50** | 20.22 | |
| **18.37** | 20.25 | | **19.17** | 21.04 | |
| **19.49** | 21.20 | Рам., Прал., Вяз., Ан., Хмел., Зял., Крыж., М.Мора, Леб. | **20.36** | 22.23 | |
| **20.37** | 22.35 | Леб. | **22.03** | 23.42 | |
| **22.24** | 23.57 | Сел., Рам., Прал., Хмел., Зял., Крыж., М.Мора, Леб. | **23.47** | 1.18 | |

## Расклад руху прыгарадных цягнікоў па ст. Маладзечна з 30 мая 2004 года

| | Маладзечна адпр. | Гудагай прыб. | дні курсір. | | Гудагай адпр. | Маладзечна прыб. | дні курсір. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **8.42** | 10.28 | штодз. | | **5.25** | 7.12 | штодз. |
| | **13.09** | 14.54 | вых. | | **10.43** | 12.21 | штодз. |
| | **15.53** | 17.38 | штодз. | | **15.18** | 17.05 | вых. |
| | **18.03** | 19.52 | штодз. | | **17.56** | 19.39 | штодз. |
| | **20.43** | 22.32 | штодз. | | **20.09** | 21.50 | штодз. |
| | **Маладзечна** | **Ліда** | | | **Ліда** | **Маладзечна** | |
| Баг. | **7.38** | 9.03 | сб. | | **3.52** | 7.00 | штодз. |
| | **8.25** | 11.32 | штодз. | Баг. | **9.18** | 10.42 | сб. |
| | **12.41** | 15.53 | вых. | | **9.16** | 12.25 | штодз. |
| Юрац. | **16.07** | 18.01 | ндз. | | **12.18** | 15.26 | вых. |
| | **17.51** | 20.56 | штодз. | | **16.19** | 19.27 | штодз. |
| | **20.32** | 23.42 | штодз. | Юрац. | **18.58** | 21.04 | ндз. |
| | **Маладзечна** | **Крулеўшчына** | | | **Крулеўшчына** | **Маладзечна** | |
| Параф. | **7.20** | 9.16 | вых. | Глыб. | **4.40** | 7.00 | штодз. |
| Пол. | **8.30** | 10.51 | штодз. Пол. 12.48 | Параф. | **9.36** | 11.33 | вых. |
| | **12.35** | 14.56 | вых. | | **15.14** | 17.38 | вых. |
| Глыб. | **20.34** | 22.50 | штодз. Глыб. 23.30 | Пол. | **17.05** | 19.36 | штодз. Пол.14.44 |
| | **23.53** | 2.22 | ндз. | Пол. | **19.18** | 21.56 | пт. |

■ ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ

# Цягнула, як конь

"Добры дзень, паважаны рэдактар! У мяне вялікая праблема. У 55 гадоў я засталася без працы. Сродак існавання – пенсія памерам у 141 тысячу рублёў. Калі паглядзець з аднаго боку, то можна сказаць: што ты, кабета, яшчэ хочаш? У людзей і гэтага няма, камусьці яшчэ горш. А калі ўнікнуць? У мяне 3 сыны, нявесткі, унукі, старэнькая нямоглая маці. Хто мае дзяцей – паспачувае, бо ім, маладым, жыць цяжка. Калі я ў якіх ёсць трантах прахаджу, то яны хочуць адзявацца, а на ўнуках усё рвецца імгненна. Таму трэба дапамагчы, інакш сэрца разарвецца на часткі. А як на 140 тысяч дапамагчы? Жыць, кватэру аплаціць, лекі маці?

Цяпер, хоць сорамна, але буду сябе хваліць. Маю вышэйшую адукацыю – аграном. Працавала апаратарам катлоў з высокім атмасферным ціскам на ўсіх тыпах і відах паліва, у тым ліку на газе. Маю "коркі". Таксама апаратар хімводападрыхтоўкі. Наогул, "і ў салдаты, і ў матросы, і падмазываць калёсы".

Усё жыццё я марыла купіць сабе ананас. Але мара мая пакуль не збылася. Думала, пайду на пенсію, адзін год дадуць папрацаваць і куплю. Не выйшла. Можна шмат пісаць пра цяперашняе жыццё-быццё. Але ж вы, паважаны рэдактар, чалавек разумны, самі ўсё разумееце. Я не цураюся ніякай працы. Калі мае дзеці былі малыя (а я іх падымала адна), то працавала аграномам і ў дзвюх арганізацыях прыбіральшчыцай. З 5 гадзін да 8 – у адной і з 17 да 21 гадзіны – у другой. Працавала па сумяшчальніцтву. Цягнула, як той калгасны конь, 2 стаўкі, а плацілі дзве па 0,5.

Наогул. Старанная, вельмі працавітая маладая пенсіянерка просіць бізнэсмэнаў і добрых людзей узяць яе на любую работу. Наракаць не будзеце. А той ананас, які я так марыла купіць усё жыццё, куплю з першай зарплаты і падару вам, паважаны рэдактар. Да вас жа звяртаюцца, прыходзяць важныя людзі. Можа, вы ім расказалі б пра маю праблему. Не з радасці я пішу, а з адчаю.

**З павагай Т.М.".**

**Поўнае імя і адрас карэспандэнткі ёсць у рэдакцыі.**

■ МОВА

# Слова да беларуса

## Чаму мы такія абыякавыя да беларускай мовы?

**Пасля доўгіх ваганняў хачу на старонках газеты, як яе сталы падпісчык і чытач, выказаць свой погляд на моўнае пытанне ў Беларусі, паколькі я вельмі не абыякавы да яго.**

Гістарычна здарылася так, што ў сілу вядомых прычын беларусы былі па сутнасці адлучаны ад сваёй роднай мовы і на працягу некалькіх стагоддзяў з-за адпаведнай моўнай палітыкі былых дзеючых улад былі вымушаныя засвойваць польскую, а затым рускую мовы.

У выніку гэтага і ў наш час шмат хто з беларусаў добра не ведае беларускай мовы і душой не адчувае яе мілагучнасці, самабытнасці і прыгажосці, знаходзіцца ў беларускамоўнай летаргічнай спячцы і ў цэлым ставіцца абыякава да роднага слова. Больш таго, у некаторай часткі беларусаў выпрацаваўся нацыянальны нігілізм-нежаданне і нават адмаўленне неабходнасці ведаць беларускую мову, нежаданне размаўляць на ёй.

Што мы за людзі, шаноўныя беларусы? Дзе нашы нацыянальныя гонар і годнасць? Дзе наша нацыянальная самасвядомасць? Колькі часу мы будзем праяўляць абыякавасць, зачарсцвеласць да роднага слова?

Нам даўно пара гэта зразумець, усвядоміць даўно пара, на сябе разглавацца за тое, што мы такія, і выправіць становішча, у якім апынулася родная мова.

Давайце разам паразважаем: няўжо наша мова такая кепская, няўжо яна горшая, чым руская мова ці якая-небудзь іншая мова свету? І будзем памятаць, што, па словах вялікага Францішка Багушэвіча, яна "такая ж людская і панская, як і французская альбо нямецкая, альбо іншая якая". Паколькі ў Беларусі дзейнічаюць дзве дзяржаўныя мовы, то мае сэнс паразважаць аб некаторых адметнасцях і адрозненнях беларускай мовы ад рускай.

Па-першае, гэта арыгінальнасць, самабытнасць, трапнасць беларускіх слоў (па слову разумеецца яго змест): агароднiна (па-руску "овощи"), вяселле (свадьба), Вялікдзень (Пасха), вячэра (ужин), завушніцы (серьги), запалкі (спички), пярэдадзень (канун) і г.д.

Па-другое, беларускія словы прасцей і карацей вымаўляюцца: букіністычны (букинистический), дзеючы (действующий), гераічны (героический), вычарпальны (исчерпывающий), варты (заслуживающий) і г.д.

Па-трэцяе, дакладнасць, дасканаласць, адпаведнасць ісціне беларускіх слоў: да пабачэння (до свидания). Але "свидание" – гэта загадзя дамоўленая сустрэча дзвюх (і больш) асоб, часцей улюбёных мужчыны і жанчыны. "Пабачэнне" – ёсць звычайная (не дамоўленая) сустрэча людзей, і таму словазлучэнне "да пабачэння" сапраўды адпавядае паняццю "да сустрэчы".

Падвячорак (полдник) – прыём ежы паміж абедам і вячэрай. Але "полдник" – гэта ёсць як бы палова дня, аднак гэта ўжо не палова дня, а час паміж абедам і вячэрай.

Добры дзень, добры вечар (здравствуйте). Гэта значыць, што па-беларуску больш разнастайна і больш дакладна, дасканала робіцца прывітанне паміж людзьмі пры сустрэчы. Пры гэтым слова "здавствуйте" вельмі цяжка вымаўляецца і таму па сутнасці яго амаль ніхто (ні рускія, ні беларусы) правільна не вымаўляе, а звычайна гавораць "здрасьце".

Па-чацвёртае, шмат беларускіх словаў больш простыя ў напісанні (як чуецца слова, так яно і пішацца, г.зн. напісанне даецца паводле яго вымаўлення): вада (вода), карова (корова), малако (молоко), масла (масло) і г.д.

Па-пятае, мілагучнасць, прыгажосць беларускай мовы (параўнайце з рускамоўнымі перакладамі): абаяльны, але, айчына, амаль, асабліва, асалода, асвета, ахова, балазе, бялізна, вельмі, вёска, вітанне, гонар, густ, замалёўка, заміланне і г.д.

Аднак у некаторай часткі рускіх стаўленне такое, што беларускай мовы нібы ўвогуле не існуе, што беларускія словы – гэта сапсаваныя (по-русски "испорченные") рускія словы. Так, напрыклад, у час гульні клуба вясёлых і знаходлівых (БДУ-сібіракі, паказ па ОРТ 25.11.2003) з боку аднаго з сібіракоў прагучала здзеклівае выказванне, што выйшаў "российско-белорусский справочник" и они не находят отличий между русскими и белорусскими словами": автобус-автобус (хаця па-беларуску "аўтобус"), президент-президент (прэзідэнт) і інш. У дадзеным выпадку трэба адзначыць, што сібіраком былі названыя словы не рускага і не беларускага паходжання: "аўтобус" паходзіць ад грэчаскага "autos" і лацінскага "bus", а "прэзідэнт" – ад лацінскага "praesidens". Маецца мноства беларускіх і рускіх слоў іншаземнага паходжання, якія ўспрымаюцца як беларусамі, так і рускімі як сваімі роднымі словамі.

**Барыс БАРОЎСКІ,**
**супрацоўнік абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.**

**Заканчэнне будзе.**

### Пра аўтара

**Барыс Бароўскі нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Рабінавая Маладзечанскага раёна. Пасля заканчэння Гарадзілаўскай СШ 27 гадоў служыў ва Узброеных Сілах СССР і жыў у Расіі, выконваў навукова-даследніцкую, а затым навукова-педагагічную работу. Кандыдат хімічных навук, дацэнт, мае 57 навуковых і навукова-метадычных работ. Па асабістым жаданні звольніўся са службы і працягнуў працу ў сацыяльна-культурнай сферы Маладзечаншчыны. Палкоўнік запасу.**

■ СТРАТЫ

# Памёр Міхаіл Карчміт

**МІНСК. У Германіі на 56–м годзе 22 мая памёр Герой Беларусі Міхаіл Карчміт.**

Міхаіл Карчміт – член Савета рэспублікі, Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі, узначальваў адно з буйнейшых аграпрамысловых прадпрыемстваў Беларусі – агракамбінат "Сноў" у Нясвіжскім раёне. Нарадзіўся 1 лютага 1949 года ў вёсцы Радзеўцы, што ў Граніцкім сельсавеце Маладзечанскага раёна.

Міхаіл Карчміт скончыў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, інжынер–механік. Працаваў інжынерам, галоўным інжынерам калгаса "Ленінскі шлях", старшынёй калгаса "Рассвет" Нясвіжскага раёна". Ад 1988 года ўзначальваў агракамбінат "Сноў". У Германію Карчміт выязджаў на лячэнне, калі адчуў сябе хворым.



Фота з архіва "РГ".

Карчміт прыняў агракамбінат "Сноў", як ён сам гаварыў у сваіх інтэрв'ю, з добрых рук ранейшага кіраўніка **Я.Аляксанкіна**. Яго папярэднік, па словах Карчміта, быў чалавекам прагрэсіўных поглядаў, энэргічны, які здолеў стварыць добры калектыў аднадумцаў.

"Сноў" – буйное шматпрофільнае прадпрыемства. Вырошчвае збожжавыя, цукровыя буракі, кармавыя культуры. Мае статак ў 1500 галоў, 1800 свінняў. На птушкаферме за год гадуецца больш за 1 мільён галоў птушкі. Працуюць забойны і кілбасны цэхі, свой малакаперапрацоўчы завод. Выкарыстоўваюцца сучасныя тэхналогіі.

Перад смерцю Міхаіл Карчміт дзяліўся сваімі планамі аб стварэнні буйнога малочнатаварнага прадпрыемства, роўных якому не будзе ва ўсёй Еўропе. Лёс распарадзіўся інакш.

Карчміт параўноўваў зямлю з жанчынай: "Пастаўся да яе з пяшчотай, правядзі неабходныя мерапрыемствы – і будзеш з ураджаем".

Пахавалі Міхаіла Карчміта не на Маладзечаншчыне, а там, дзе ён правёў апошнія гады свайго жыцця, – на Нясвіжчыне.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Калі мяне арыштавалі ў Варшаве, я пасьпела ўзяць з шафы п. Цірбах свэтар, штаны, ручнік і закапянскія капці; пакінуўшы распіску на гэтыя рэчы аб тым, каб яна ў Бэрліне ўзяла сабе ўзамен з пакінутых там маіх рэчаў. Прапала-б я зусім, калі-б ня мела з сабою тых рэчаў!

Калі мы прыехалі ў Іркуцкую вобласьць, быў такі вялікі мароз, што адразу некалькі жанчын адмарозілі сабе насы.

Накіравалі мяне ў Тайшэцкія лагеры Іркуцкай вобласьці, недалёка ад возера Байкал, у г.зв. Ангар-лаг.

### У лагеры

Прывялі нас у барак, перапоўнены вязьнямі. Пасярэдзіне яго стаяла печка. Далі месца на нарах, на якіх ляжаў сяньнік набіты саломай і марны стары плед. Падушкі ніякай не было, і ня бачыла я яе аж да вызваленьня. Было амаль цёмна. Барак асьвятляла маленькая лямпа-капцілка. Дрыжэла я ад холаду й заснуць не магла.

За парадкам у бараку глядзела т.зв. дневальная. Яна печку паліла й падлогу мыла, прыносіла ваду і т.д. На ноч баракі зачынялі. Увесь лагер быў агароджаны высокім плотам з нацягнутым зьверху дротам, а па вуглах стаялі вышкі для стражнікаў.

На другі дзень далі нам вопратку: брудныя, палатаныя старыя бушлаты, ватныя, таксама старыя, штаны, шапкі й валёнкі — кожны іншы. Адзін валёнак быў высокі й шэры, другі цёмны, карычневы й кароткі; адзін замалы, другі завялікі. Бялізну казённую далі, таксама й ручнік. Вывелі нас перад баракамі й пастроілі ў пяцёркі. Атрыманая вопратка так нас зьмяніла, што нікога з нас немагчыма было пазнаць. А я чую: кліча хтосьці мяне па імені. Пытаюся: „Як вы мяне пазналі?" Адказалі: „Па паяску!" Бушлат свой я перавязала была паяском ад свайго японскага халата.

Раней, чым мы выйшлі на работу, пасьнедалі ў лагернай халоднай, задымленай, цёмнай, перапоўненай парай сталоўцы. Далі нам па кавалачку хлеба й аўсяны суп. Такі суп мы елі тры разы ў дзень. Як жа надаела нам тая аўсянка!

Вывелі нас на дарогу адкідаць сьнег. Мароз вялікі, што сьлёзы замярзаюць. Мерзьне нос. Стараемся яго абвязаць хустачкай, але яна робіцца шорсткая й замярзае ад дыханьня.

У бараках пераважала ўкраінская мова. Мужчын у нашым лагеры не было. Усе мужчынскія работы выконвалі жанчыны.

Далі мне першую катэгорыю, г.зн. залічылі да наймацнейшых і паслалі на лесапавал. Трапіла я ў калону 9, якая ня мела вады. Прывозілі ваду з ракі, адлеглай 12 кілямэтраў ад лагера. Спецыяльныя брыгады дзень і ноч разьбівалі лёд, які прывозілі ў лагер, растоплівалі й на такой вадзе варылі страву, бралі ў лазьню, мылі бялізну і т.д. Можна сабе ўявіць, як цяжка было здабыць кубачак вады, калі піць захацелася. Тапілі й пілі сьнег тады. Вельмі доўгі час я ня мела лыжкі й суп піла зь міскі, а калі была яшчэ якая каша ці бульба, то ела скарынкай хлеба.

Пачала я хадзіць у лес звальваць велізарныя сосны, пілаваць іх і грузіць на машыны. Выводзілі на работу пяцёркамі, акружаных стражнікамі й сабакамі. У лесе назначалі граніцы, якія ня мелі мы права пераступіць. Аднойчы стражнік сказаў аднэй брыгадзірцы пайсьці й прынесьці нейкія дровы, якія ляжалі на вызначанай граніцы. Калі яна падышла да гэтага месца, ён выстраліў і забіў яе. Пасьля сказаў, што яна ўцякала. Куды хто мог уцячы — у такі мароз, у тайгу з драпежнымі зьвярамі? Здаралася, што хто-небудзь прабаваў уцячы. Хутка такога сьмельчака лавілі й расстрэльвалі. Нам часта чыталі прыказы аб расстрэле за пабег.

Брыгадзірамі нашымі былі крыміналісты — забойцы або зладзейкі. Не любілі яны палітычных вязьняў і мелі тут нагоду пазьдзекавацца над імі.

Мне было асабліва цяжка, бо я была хворая, а сама ня ведала, якой хваробай. Мне вельмі балела галава й адчувала слабасьць. А трэба было дараўнаць дужым ўкраінкам ці латышкам, якія прывыкшы былі выконваць мужчынскія работы. Як пасьля некалькі гадоў пазьней аказалася, я была хворая гіпэртаніяй — мела вельмі высокі ціск крыві. Нікому не прыйшло ў галаву зьмерыць мне крывяны ціск, а і я сама пра такую хваробу ня чула. Маіх скаргаў на боль галавы ніхто ня слухаў. Ня выканаўшы нормы, я менш, чым іншыя, дастава хлеба ці цукру. Брыгадзіры ўсьцяж на мяне крычалі. Бывала, ледзь дабяруся да нар пасьля работы, варочаюся сагнуўшыся, толькі выцягнуся на сяньніку, каб адпачыць, а тут прылятае брыгадзір і загадвае йсьці на разгрузку вагонаў.

**Анеля КАТКОВІЧ.**

**Працяг будзе.**

# Дзень у Паўночных Афінах

**Вы яшчэ не ведаеце, што вёску Залессе, якая на Смаргоншчыне, называюць Паўночнымі Афінамі? Тады я раскажу менавіта вам.**

"...28 красавіка 1802 года я з'ехаў з Пецярбургу з намерам назаўсёды пасяліцца у вёсцы, недалёка ад Вільні...". Так пісаў у сваіх мемуарах князь Міхал Клеафас Агінскі – дзяржаўны дзеяч, былы паўстанец, кампазітар-аматар — пра той час, калі ён прыехаў у Залессе. Дарэчы, яго жаданне не збылося: праз 20 год ён з'ехаў у Італію, дзе і пахаваны на адных могілках з Галілеем Галілео, Мікеланджэлам Буанароці, Джоакінам Расіні. Але ж да цяперашняга часу імя Агінскага неадрыўнае ад Смаргонскага краю.

Мясцовасць Залессе першапачаткова звалася Дзербы. У першай палове XVIII стагоддзя маёмасць набыў віцебскі ваявода Марцыян Агінскі, потым яна належала яго сыну Тадэвушу Францішку, ваяводзе трокскаму. Пасля смерці Тадэвуша фальварак атрымаў адзін з яго сыноў – Францішак Ксаверы, граф і апошні кухмістр літоўскі. Не меўшы сям'і, Францішак пакінуў Залессе ў спадчыну свайму пляменніку Міхалу Клеафасу Агінскаму, дзе і пражыў са сваёй сям'ёй 20 гадоў. Жывучы на Смаргоншчыне, былы дыпламат Рэчы Паспалітай, паўстанец 1794 года, а потым эмігрант атрымаў ад цара Аляксандра I пасаду сенатара Расійскай імперыі. У Залессі ён пачаў пісаць свае літаратурныя творы – "Мемуары аб Польшчы і паляках з 1788 па 1815 гг." (у іх неадназова падкрэслівў сваё лідбвінскае паходжанне) і "Лісты аб музыцы". Тут Агінскі склаў большасць сваіх рамансаў, паланэзаў. Існуе версія, што менавіта у Залессі нарадзіўся яго знакаміты паланэз "Развітанне з Радзімай". Памылкова лічыць, што гэтую назву даў сам аўтар, – у выданнях музычных твораў Агінскага тагочасу паланэз называўся проста і сціпла: "ля-мінор". Смаргонскі край па праву можна лічыць калыскай творчасці кампазітара. З успамінаў сучаснікаў князя Міхала, якія адлюстраваны ў некаторых кнігах, відавочна, што яго залеская сядзіба раней звалася Паўночныя Афіны. Магчыма, на пачатку XIX стагоддзя беларуская вёска і была падобная на іншаземную дзяржаву. Цяпер жа Залессе – гэта невялікае мястэчка, якое знаходзіцца каля Смаргоні, амаль на сярэдзіне шляху чыгункі паміж Мінскам і Вільняй. Тут да нашых часоў захавалася сядзіба Агінскага (растаўрацыя яе з канца 70-х вядзецца і дагэтуль) – фрагменты паркаў XVIII-XIX стагоддзяў, невялікі палац і адрэстаўраваная капліца. Нягледзячы на тое, што рэстаўрацыя сядзібы знаходзіцца ў стане "даўгабуда", сюды, у Залессе, штогод прыязджаюць на экскурсіі школьнікі, настаўнікі – тыя, каго цікавіць гісторыя мінуўшчыны. З 1990 года тут святкуюць угодкі Агінскага – былога гаспадара Паўночных Афін.

Хто ж такі быў князь Агінскі – дзяржаўны дзеяч па прызванні, аматар музыкі па захапленні, чалавек эпохі Асветніцтва, ці рамантык пачатку XIX стагоддзя? У рэшце рэшт, гэта просты чалавек, які забяспечваў сям'ю, выхоўваў дзяцей і клапаціўся аб іх будучыні. Ці, мо, Агінскі – складаная, супярэчлівая натура, у якой сутыкнуліся прагматызм і натуральны авантурызм прадстаўніка двух стагоддзяў? Хто ж гэты князь, прозвішча якога моцна замацавалася у нашай (не вельмі далёкай) памяці побач з вядомым у тыя часы танцам у адно – "Паланэз Агінскага"?


У Залессі ёсць лебядзіны востраў. Старажылы мястэчка памятаюць, што некалі на яго можна было трапіць па мосціку. Агульнай легенды, якая тлумачыць сэнс назвы вострава, у залесцаў няма. У кожнага свая гісторыя, свая казка.

■ СУЧАСНЫЯ КЛОПАТЫ ЗАЛЕСЦАЎ

## Камунальная краіна

**Па ініцыятыве старшыні Залескага сельскага савета Сяргея Пачыкоўскага ў мястэчку створана міні-ЖКГ (жыллёва-камунальная гаспадарка). Шэраг паслуг камунальшчыкаў пашыраецца.**

Прадпрыемства гэта маладое, пачало працаваць 2 гады таму. За гэты час зрабілі 14 абсталяваных сметніц. Цяпер камунальшчыкі рамантуюць і ўстанаўліваюць плот уздоўж цэнтральнай дарогі. Па словах Сяргея Пачыкоўскага, гэта добраўпарадкаванне набыло статус грамадскага руху. Хто з залесцаў мае ахвоту ды сілу, самастойна даводзіць да ладу тэрыторыю каля свайго дома, будаўнічымі матэрыяламі забяспечвае сельсавет.

Камунальнай гаспадаркай лічыцца і унітарнае прадпрыемства "Сябар". У яго транспартным "парку" ёсць трактар. Разглядаюцца пытанні наконт апрацоўкі зямлі, дастаўкі паліва, нарыхтоўкі кармоў усім ахвотным. Як кажуць, справа не ў грашах, а ў іх колькасці.

Адным з варыянтаў іх прыцягнення, паводле слоў старшыні сельсавета, — развіццё турызму ў Залессі. Для гэтага трэба рэканструяваць тое, што засталося з далёкіх часоў, спадчыну ад Агінскага. План работ распрацаваны. Мяркую, і першы крок для развіцця турыстычнага бізнесу ўжо зроблены. Прыдумаў жа нейкі добры чалавек, каб у невялікім мястэчку прыпыняўся пасажырскі цягнік Мінск-Вільня і наадварот, калі той мінскага фарміравання. У лепшым выпадку ў вёсках прыпыняюца аўтобусы з не надта аддаленых паселішчаў.


Гэтага пеўня ведае шмат хто ў Залессі. У яго нялёгкая птушыная доля. Маці пеўня вывела двое куранятаў, выжыў толькі ён. Ніякай мінушкі галасістай птушцы не далі. Цяпер у яго ёсць сябар, карычнева-чорны певень, з якім ніяк не падзеляць 7 курак, што жывуць на іх двары.

# Самая лепшая ў свеце

**Гавораць, у Залессі кожны чалавек чым-небудзь вядомы. Святлана Сідаровіч – шматдзетная маці. Яна выхоўвае двух родных дзяцей Наталлю і Алесю, прыёмных Колю і Вераніку і, як кажа жанчына з добрай усмешкай, Жэньку-падкідыша, што надоўга прыязджае да іх у госці (гэта сын яе хросніцы).**

Не паспела маці азірнуцца, а Наталля з Алесяй ужо дараслыя. Першая — будучы бухгалтар, другая – падатковы інспектар. Амаль увесь час яны аддаюць вучобе. Маці ўжо не патрэбная ім так, як у дзяцінстве. Святлана разумела гэта. Як і тое, што не вычарпала свой бацькоўскі патэнцыял. З намерам займець сабе яшчэ адну дачку, яна паехала ў смаргонскі прытулак, дакладней, сацыяльна-педагагічны цэнтр. Святлана лічыць, што інтэрнатаўскія дзеці больш спешчаныя, іх возяць за мяжу, а хлопчыкі і дзяўчынкі з прытулку – дамашнія. Дарэчы, жанчына сама выхоўвалася ў дзіцячым доме.

...Святлане паказалі 16 дзяцей ад 2 да 16 год. Вочы жанчыны шукалі ю, яшчэ незнаёмую, але такую жаданую дачку. Нарэшце вось яна – Вераніка, якая аказалася маленькай мамкай свайму брацiку Колю. У Залессе Святлана вярнулася з сынам і дачкой. Тры разы забіралі гэтых дзяцей ад сапраўдных бацькоў, даючы ім магчымасць выправіць памылку, адумацца і стварыць сям'ю.

Шчырую і сямейную цеплыню хлапчук і дзяўчо знайшлі у трох жанчын: Святланы, Наталлі, Алесі. Вераніцы адразу даверылі накрыць смачны стол. Хлеб яна парэзала так, што тоненькія акуратныя лустачкі свяціліся. На пытанне: "Навошта так?" дзяўчынка сур'ёзна адказала: "Эканоміць трэба." Напэўна, яна ўсё яшчэ баялася застацца з адной булкай хлеба на тыдзень. Тым не менш яны сумуюць па роднай маці і любяць яе. Святлану ж называюць цёцяй. І толькі за вочы, калі тая не чуе: "Вунь, наша мама пайшла."

Вераніка і Коля вельмі працалюбівыя, дапамагаюць садзіць бульбу, даглядаць агарод. Наталля з Алесяй выхоўваюць малодшых брата з сястрой, разам вучаць урокі. Кожны заняты сваёй справай. Штодня дзеці прыносяць для маці букеты з дзьмухаўцоў, рапсу, найшчырэйшыя ў яе жыцці. Яна ж пячэ ім смачныя пірагі, якія атрымліваюцца такімі ўдалымі, што мастачкоўцы нават на вяселлі заказваюць. Яшчэ Святлана шые, вяжа, робіць на шкле пластылінавую мазаіку, карцінкі гэтыя — проста цуд. Дачка Наталля кажа, што іх маці — самая цудоўная ў свеце. І дадае:

— Я б не змагла ўзяць на выхаванне чужое дзіця. У мяне будзе адно.

Алеся трымае ў сакрэце колькасць будучых дзяцей.

А ў Святланы ёсць мара, каб у сям'і з'явілася яшчэ адна дзяўчынка.


Святлана Сідаровіч (злева) выхоўвае двух родных дзяцей Наталлю (у цэнтры) і Алесю, прыёмных Колю з Веранікай і Жэньку-падкідыша (справа), што надоўга прыязджае ў госці.

# Дзень у Паўночных Афінах



Велічны ўязны знак пры дарозе нібы запрашае ў Залессе.


Рэшткі каменнага палаца – фрагмент сядзібнага ансамбля, — сцены якога падчас жыцця Агінскага ў Залессі былі напоўненыя музыкай.


Краявіды Залесся.


На прыёме ў доктара Франца Шчуроўскага.

## Рэцэпт шчасця

**1 ліпеня ў Залессі закрыюць бальніцу на 25 ложкаў. Пакінуць толькі амбулаторыю. Галоўны залескі доктар Франц Шчуроўскі не супраць гэтага. Але варта прапанаваць местачкоўцам альтэрнатыву.**

Будынку, дзе месціцца бальніца, больш за 100 год, і цяпер ён не адпавядае ніякім нормам. Тут некалі працаваў фельчар, мастак Мілашэўскі, захаваліся фотаздымкі таго часу, яго карціны. А цяпер пакуль працуе не менш выдатны сучаснік Франц Шчуроўскі. Да яго прыходзяць не толькі за медыцынскай дапамогай, але і за душэўнай, што мо, яшчэ больш важна. Ён мае 8 медыцынскіх спецыяльнасцяў. У маі ў Мінску ў Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі атрымаў дыплом доктара агульнай практыкі. Кажуць, цяпер гэта надзвычай модна і гаворыць аб высокім прафесіяналізме. Што будзе рабіць пасля закрыцця бальніцы, яшчэ не вырашыў. Вёску ў вузкім і шырокім разуменні Франц Шчуроўскі лічыць бесперспектыўнай. Аб чым апошнім часам сведчыць і закрыццё медыцынскіх установў у сельскай мясцовасці. А таксама зніжэнне нараджальнасці. На ўчастку залескага доктара 3263 чалавекі з 20 населеных пунктаў. Летам да іх далучаюцца дачнікі, якім час ад часу таксама патрэбна медыцынская дапамога. То іголку дзіця праглыне, то гузік у нос засуне, або хтосьці атруціцца грыбамі. Тое, што ў смаргонскім мікрараёне Карані зрабілі лячэбніцу, доктар Шчуроўскі лічыць няправільным. Маўляў, як жа туды дабярэцца з вёскі хворы, напрыклад, на радыкуліт. Варта добраўпарадкаваць пад'язныя дарогі, пусціць транспарт. "Паспрабавалі б зрабіць бальніцу ў райвыканкаме, а яго ў сваю чаргу перанеслі ў Карані", — гаворыць ён. Пакуль жа на працягу 20 год на ўчастку доктара не было ніводнай дзіцячай смерці. Карткі местачкоўцаў стараецца сартаваць па сем'ях. Так лягчэй лячыць і прагназаваць магчымыя хваробы сваякоў.

Ведае Франц Шчуроўскі і універсальны рэцэпт, каб жанчына адчувала сябе камфортна і была абароненна, так бы мовіць, рэцэпт шчасця.

Запамінайце: у вас павінны быць муж, палюбоўнік, спонсар, гінеколаг і адвакат, калі здарыцца спрэчка паміж першымі чатырма, ён вырашыць яе з найменшым уронам для вас. Цяпер парада для мужчын: каб адчуваць сябе так, як прадстаўніцы супрацьлеглага полу, варта кінуць піць і курыць. Усё астатняе кідаць не трэба. І абавязкова берагчы жанчын.

■ НАЗІРАННІ

## «Аляксандр і Я»

**Май. Прайшло 202 гады і амаль тры тыдні, як залеская зямля ўбачыла і пачула простага і вялікага Агінскага, я ўпершыню ў сваім жыцці прыехала сюды...**

Мінаючы Насілава, Дамашы, Лебедзева..., шэраг адзінокіх дрэваў, што ператвараюцца ў зялёныя астравы на высокіх слупах, ізноў адзіночкі, галіны якіх пакрытыя жоўтымі плямамі і да іх хваробы нікому няма справы, нарэшце — велічны лес, першая вёска за ім – Залессе. І толькі цяпер я асэнсавала, што ад музыкі слаўнага мястэчка, ад нашай з табой, чытач, гісторыі мяне аддзялялі 20 хвілін язды на аўтобусе, роўныя двум стагоддзям. А колькі часу разлучае цябе з беларускай мінуўшчынай?

Заўважу, нават самым далёкім аматарам "РГ": з Мядзела да Залесся дабірацца не больш за 3 гадзіны.

На самой справе гэта не вёска, а мястэчка. Сапраўды, Залессе забудавана адна- і двухпавярховымі жылымі дамамі, рознымі грамадскімі пабудовамі. Па-свойму сучасныя залесцы ўвекавечваюць памяць аб Агінскім. Акурат насупраць будынка сельскага савета месціцца магазін "Паланэз". Толькі прадаюць там не ноты ці музычныя інструменты, літаратуру, а прадукты харчавання, патрэбныя і не зусім, накшталт чупа-чупсаў, некалі свайго пакупніка дачакаецца і адзіная 100-грамовая бляшанка кавы "Пеле" за 4340 (на маладзечанскім калгасным рынку такая каштуе 2400). У дзень майго прыезду прадавец гэтага магазіна **Зоя Адамовіч** першы дзень, як прыступіла да працы на новым месцы. Ледзь зразумелі мы адна адну, калі гутарылі пра, бадай, самы хадавы тавар – таннае віно. Ну, як жа пра яго было не спытаца, калі з паліц паглядаюць бутэлькі з надпісамі "Шарм", "Шанс", "Аляксандр і Я" на расфарбаваных этыкетках.


У залескім магазіне "Паланэз".

— Танны тавар, напэўна, хутка разыходзіцца? – кіўнула я на радок з алкагольнымі напоямі.

— І гэта для вас танны?

На паліцу вышэй стаялі бутэлькі замежнага віна ў 2-3 разы даражэйшыя.

Я не зразумела.

Прадавец тут жа сцяміла:

— Вы ж кажыце па-нашаму. Якое ж гэта віно — чарніла!

І усё ж такі цікава, у гонар каго назва "Аляксандр і Я"?

Зоя Адамовіч і загадчыца, і прадавец «Паланэза». Сваёй справе ніколі не здраджвала. На новым месцы ёй яшчэ крыху не па сабе, заўважае, што змянілася дакументацыя, справаздачы. Раней жанчына трымала ў Залессі палатку, гандлявала прадуктамі і адзеннем. Па яе словах, улады забаранілі палатачны гандаль і прапанавалі арандаваць пустое памяшканне, якіх у мястэчку шмат. Але на гэта яна не пайшла, бо няма грошай на ўтрыманне гэткага бізнэсу. Час мяняе людскія праблемы. А можа, яны і аднолькавыя, толькі называюцца па-рознаму.

## Ленін і Агінскі

**На першы погляд гэтыя асобы не маюць ніякай сувязі паміж сабой. З другога – гэта яшчэ адно ноу-хау па-залеску ў памяць аб Агінскім. Справа у тым, што мясцовы былы калгас імя Леніна ператварылі ў фермерскую гаспадарку "Агінскае". Тут займаюцца раслінаводствам, жывёлагадоўляй.**

З фермерскай гаспадаркай супрацоўнічае мясцовая малочная лабараторыя, якая арандуе тут малакавоз, у сяброўстве і з сельскім саветам. Тлумачу, сельсавет займаецца нарыхтоўкай малака. Нават увялі спецыяльныя пасады, напрыклад, бухгалтар па малацэ, які займаецца выплатамі насельніцтву за здадзены тавар і малаказборшчыкам, іх у штаце 11. На арандаванай машыне залесцы адвозяць малако, у тым ліку і з "Агінскага" на Смаргонскі малочны завод. На прадпрыемстве ў сваю чаргу местачкоўцы закупілі абсталяванне для малочнай лабараторыі. Дарэчы, колькасць малака, што аддаюць у горад, падае з пачаткам дачнага сезона. Вінаватыя аматары гэтага гаючага і каштоўнага для здароўя напою, які хутка яны і раскупляюць.

Як думаеш, каму больш спадабаліся б гаспадарчыя справы, Леніну ці Агінскаму?

По Залессі блукала
Ірына РАБУШКА.
Фота Ірыны РАБУШКІ.

Апытанне залесцаў пра тое, як яны сябе пачуваюць вяскоўцамі, чытайце на 12-й старонцы "Рэгіянальнай газеты".

■ ВІЛЬНЯ

# Памяць аб Наталлі Арсеннеевай

## У Вільні адкрыта мемарыяльная дошка паэткі, лёс якой звязаны з нашым краем

**ВІЛЬНЯ. У суботу ў межах святкавання 15–годдзя Таварыства беларускай культуры ў Літве у Базыліянскіх мурах, дзе некалі месцілася беларуская гімназія, адкрытая мемарыяльная дошка ў гонар вядомай паэткі Наталлі Арсенневай, лёс якой непарыўна звязаны і з Вілейкай, Валожыншчынай.**

Асноўны фундатар работ па выкананні мемарыяльнай дошкі і арганізатар яе ўстаноўкі ў горадзе, дзе Арсеннева жыла і дзе вучылася, у беларускай Мецы – Вільні – **Пётр Краўчанка**. Былы міністр замежных спраў Беларусі, наш зямляк, ён узначальвае камітэт па святкаванні 100–годдзя Наталлі Арсенневай.



Наталля Арсеннева. Фота з архіва "РГ".

Што ўяўляе гэты мастацкі твор, аўтарам якога стаў беларускі скульптар **Аляксандр Шатэрнік**? Гэта кавалак чырвонага граніту з бронзавымі накладкамі, на якім зроблены выява Наталлі Арсенневай ва ўзросце 40–45 гадоў у прыгожым нацыянальным строі, у пацерках. Унізе ідзе надпіс на літоўскай і беларускай мовах: "Тут, у будынку былой беларускай гімназіі, у 1919– 1922 гадах вучылася вялікая беларуская паэтка Наталля Арсеннева (1903 – 1997)".

Мы сустрэліся з Пятром Краўчанкам, які расказаў аб падзеі:

"Чаму менавіта Вільню выбралі для таго, каб ушанаваць памяць Арсенневай? Сапраўды, былі планы зрабіць гэта ў Беларусі, але, разумеючы, што сённяшнія афіцыйныя ўлады наўрад ці пойдуць на гэта, выбралі Вільню. Нашу гістарычную, духоўную сталіцу, з якой была цесна звязана спадарыня Наталля. Я літаральна ўчора (размова адбылася ў панядзелак – А.М.) даведаўся, дзе жыла спадарыня Наталля. Гэта вуліца Сіроцкая, 3. У 50–ці метрах ад беларускай гімназіі".

Вільня, горад юнацтва, кахання, мрояў Наталлі Арсенневай. Па словах Пятра Краўчанкі, яна неадноймы яму гэта казала. Казала і пра тое, што сэрца яе туды рвалася пастаянна. Яна звязаная з Вільняй, як звязаная і з Вілейкай, дзе ў 1939 годзе працавала ў абласной газеце, звязаная і з Дорамі на Валожыншчыне, дзе жыла на радзіме мужа Францішка Кушаля.

Наталля Арсеннева не давала ніякага даручэння і не выказвала ніякага спадзявання Пятру Краўчанку, з якім сябравала, але ён палічыў маральным абавязкам нейкім чынам увекавечыць яе памяць у Вільні.

"Я сабе даў маральную клятву, – кажа Пётр Краўчанка, – рэалізаваць гэты праект. Я з'яўляюся яго асноўным фундатарам. На фінішным этапе прычыніліся да фінансавай дапамогі і аб'яднанне "Бацькаўшчына". Шчыра дапамагалі справе афіцыйныя літоўскія ўлады. Прынамсі, дзяржсакратар Міністэрства замежных спраў **Літвы Эвалдас Ігнатавічус**."

Адкрыццё не выпадкова прайшло 22 мая, у дні святкавання юбілею Таварыства беларускай культуры ў Літве. На яго прыехала шмат беларусаў з усяго свету. На адкрыцці дошкі было больш за 100 чалавек.

У 12.30 старшыня Таварыства беларусаў у Літве **Хведар Нюнька**, аўтар работы Алесь Шатэрнік і Пётр Краўчанка пад апладысменты знялі з дошкі белы покрыў.

На ўрачыстасці выступілі паэт **Генадзь Бураўкін**, акадэмік **Радзім Гарэцкі** не толькі ў якасці былога старшыні беларусаў свету "Бацькаўшчына", але і як пляменнік **Максіма Гарэцкага**, былога настаўніка Наталлі Арсенневай, якому прысвячала свае вершы. Потым выступалі аўтар мемарыяльнай дошкі Алесь Шатэрнік, старшыня Таварыства беларускай мовы **Алег Трусаў**, навуковец і аўтар кніг па беларускай эміграцыі **Лідзія Савік**, настаўніца беларускай школы імя Францішка Скарыны ў Вільні **Леакадзія Мілаш**, ад беларусаў Эстоніі намесніца старшыні беларускай суполкі "Бэз" **Зінаіда Клыга**, пісьменнік, публіцыст і навуковец **Уладзімір Арлоў**, прадстаўнік латвійскіх беларусаў, намеснік старшыні таварыства "Світанак" мастак **Вячка Целеш**, галоўны рэдактар беластоцкай газеты "Ніва" **Яўген Вапа**, старшыня клуба "Спадчына" з Мінска **Анатоль Белы**.

Ад уладаў Літвы на ўрачыстасці прысутнічаў афіцыйны прадстаўнік Міністэрства замежных спраў Літвы, былы дарадца пасольства Літвы ў Мінску, а цяпер кіраўнік дэпартамента палітычнай бяспекі пры Міністэрстве замежных спраў спадар **Рэнатас Юшка**. Дазвол на адкрыццё даў мэр Вільні **Артурас Зуокас**.

Аляксандр МАНЦЭВІЧ.



Базыліянскія муры ў Вільні, дзе вучылася ў беларускай гімназіі Наталля Арсеннева. Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

■ КНІГІ

## Пра Маладзечна

**Нядаўна ў Слоніме невялікім тыражом пабачыла свет кніга нарысаў Сяргея Чыгрына "Родам са Слонімшчыны".**

Сярод іншых жыццяпісаў – і расповед "Венцаслаў Пелікан". Сяргей Чыгрын расказвае пра вядомага ў свеце хірурга, які нарадзіўся ў Слоніме ў 1790 годзе ў сям'і музыканта слонімскага аркестра Агінскіх. За працу "Аб анеўрызмах" Венцаслаў Пелікан быў уганараваны званнем доктара медыцыны і нейрахірургіі. Працаваў рэктарам Віленскага універсітэта. У 1851 годзе быў абраны прэзідэнтам Пецярбургскай медыка–хірургічнай акадэміі. Яшчэ праз 14 гадоў – ва ўзросце 75 гадоў! – быў прызначаны старшынёй медыцынскага савета Міністэрства ўнутраных спраў.

А што ж Маладзечна... Сяргей Чыгрын піша: "Першапачатковую адукацыю Венцаслаў Пелікан атрымаў у Маладзечне..."

У гэтай самай кнізе Сяргея Чыгрына "Родам са Слонімшчыны" – і нарыс "Антон Валынчык" (1896 – 1985). Аўтар расказвае пра кампазітара, харавога дырыжора, педагога Антона Валынчыка. У 1947 годзе яму было даручана ўзначаліць Маладзечанскі міжабласны ансамбль песні і танца. Працаваў Антон Міхайлавіч і ў Ашмянах. За сваю працу ўзнагароджаны званнем заслужанага работніка культуры Беларусі.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

## Вяселле ў Малашках

Ёсць ля Краснага вёсачка Малашкі. Жыве сваімі клопатамі як і тысячы вёсак Беларусі. Сярод яе жыхароў ёсць, магчыма, нашчадкі той маладой пары, якая прысела на хвіліну перад фотааб'ектывам мястэчковага фатографа каля сотні год таму. Толькі адбылося вянчанне ў красненьскай царкве (касцёле?). У куце, побач з абразамі, гэта фатаграфія будзе нагадваць аб дні, калі ўтварылася сям'я. Не так шмат у сялянскім жыцці дзён, якія можна ўспамінаць з настальгіяй: якія мы былі маладыя!

Магчыма, гэта так. А магчыма, не ад добрага жыцця стваралася сям'я: пасаг мог быць больш вырашальным, чым каханне. І фота трэба было проста як сведчанне нейкага статусу: хапіла грошай на фотакартку. Успамінам гэтыя дні стануць і для маладых сведак цырымоніі – яны стаяць крыху ззаду, таксама пільна ўглядаючыся ў аб'ектыў апарата на трынозе. Праз нейкі час ім таксама ісці да шлюбу.

Мы гэтага не ведаем, бо нават у супрацоўнікаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея, дзе захоўваецца здымак, няма ўпэўненасці, што здымак зроблены менавіта ў Малашках. Назва вёскі пазначаная на пашпарце фатаграфіі са знакам пытальніка. Час і войны ўмеюць забіваць памяць.

Такіх сем'яў было ў Беларусі не злічыць. Небагатых, дзе ў гаспадара пара ботаў магла быць спраўленая ў шафе на ўсё жыццё.

Мікола ГАЙДУК.



Фота з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.

■ КАЛЯНДАР

**30 мая. 50 гадоў з дня нараджэння (1954, Ракаў, Валожынскі раён) жывапісца Феліксa Янушкевіча**, кандыдата мастацтвазнаўства, рэстаўратара, перакладчыка. Фелікс Янушкевіч – прэзідэнт грамадскага аб'яднання "Беларуская акадэмія выяўленчага мастацтва. Адзін з арганізатараў пленэраў у Багданаве – радзіме вядомага жывапісца Фердынанда Рушчыца. Адзін з пяцярых братоў, якія аддана шчыруюць на ніве беларушчыны.

**30 мая. 190 гадоў з дня нараджэння (1814) Міхаіла Бакуніна** – сацыяліста-утапіста, філасофа, публіцыста. Афіцэр-гвардзеец за свой незалежны характар у 1833 годзе быў спісаны ў палявую артылерыю і адкамандзіраваны ў глухамань Паўночна-Заходняга краю – мястэчка Маладзечна, дзе служыў па 1836 год. Актыўны ўдзельнік рэвалюцый 1848-1849 гадоў у Германіі, 1863-1864 гадоў – у Польшчы і Беларусі. У 1872 годзе, калі быў выключаны з І Інтэрнацыянала, стварыў міжнародную анархісцкую арганізацыю, якая дзейнічала да 1878 года.



Міхаіл Бакунін.

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

# Багаты на падзеі другі тайм

**Маладзечна – Дынама-Юні (Мінск) 4:0.**

Галы: Вышынскі (56), Дрозд (59), Мятліцкі (82), Вострыкаў (91+).

Склад: Міхайлаў – 3.Дрозд (14.Пятроўскі,66), 5.Бычкоўскі, 4.Раманоўскі – 6.Яшын, 2.Альховік, 9.Дараховіч, 10.Вышынскі, 8.Г.Савіцкі (17.Мятліцкі,55) – 7.Вострыкаў, 11.Шушкевіч (15.Гірко,46).

Футбаліст "Дынама-Юні" не рэалізаваў пенальці на 87 хвіліне – варатар парыраваў.

22 мая. 350 гледачоў. Суддзя Сахарэвіч.



Мятліцкі (у белай майцы) і Бычкоўскі радуюцца трэцяму голу.

фота www.fcmolodechno2000.com

Юныя дынамаўцы лічаную колькасць разоў здолелі ўвайсці з мячом у штрафную пляцоўку гаспадароў, якія валодалі перавагай увесь матч. Тым не менш, да перапынку не забілі, а найлепшы момант меў **Шушкевіч**. Ён накіраваў мяч вышэй варот у адзін дотык з флангавага прастрэлу пасля камбінацыі, разыгранай **Раманоўскім** і **Савіцкім**.

Так атрымалася, што каталізатарам галявых падзей стаў выхад на поле **Мятліцкага**. Ужо праз хвіліну Дзяніс выканаў нацэлены навес на далёкую штангу ў напрамку адразу дваіх партнёраў. Там **Вострыкаў** скінуў галавою мяч у цэнтр пад удар Вышынскаму, які злёту ўвагнаў прадмет гульні ад штангі пад перакладзіну (1:0). У хуткім часе **Дрозд** змясціўся са свайго краю ў цэнтр і, не сустракаючы супраціўлення, метраў з дваццаці страліў у ніжні кут (2:0). Гэты ўчэпісты абаронца, які з-за невысокага росту не падключаецца да розыгрышу стандартных становішчаў, упершыню адзначыўся забітым голам. За чатыры гады выступлення на нацыянальным узроўні ён правёў 41 матч у вышэйшай лізе, 5 – у першай, 1 – у другой, 31 – у дублі.

Цікава прайшла заключная дзесяціхвілінка. Вуглавы ў выкананні Вострыкава ўвасобіў у гол стрэлам нагою Мятліцкі (3:0). Абаронца "Маладзечна" пхнуў ля сваіх варот мінчаніна, але ўдар з адзінаццаціметровай адзнакі адбіў на вуглавы **Міхайлаў**. Навес **Гірко** з правага флангу прыняў у штрафной Вострыкаў і забіты ім гол, як усе ўзяцці варот у сустрэчы, быў выкананы нізавым ударам (4:0).

**Граніт (Мікашэвічы) – Смаргонь 0:0.**

Склад: Канашэвіч – Дукса, Сінічын, Судзін, Трындзюк – Тарасаў (Андрыенка,46; Кітурка,85), Гамановіч, Дзігілевіч, Кухлей, Кукалевіч – Вярбіцкі (Канончанка,46).

22 мая. 1000 гледачоў. Суддзя Цуканаў.

Нічыя на полі "Граніта" (сустрэча праходзіла ў райцэнтры Лунінец) была здабытая пры наяўнасці кадравых праблем. Не выйшлі на гульню **Курак**, **Карасёў** і **Урублеўскі**, які тыдзень таму зламаў запясце. На абязбольваючых уколах правялі сустрэчу **Дзігілевіч** і **Тарасаў**.

Баранавічы – Днепр-ДЮСШ-1 4:1, Вертыкаль – Камунальнік 2:2, Ліда – Хімік 1:0, Тарпеда-Кадзіна – ЗЛіН 0:1, Бяроза – Ведрыч-97 0:2, Верас – Лакаматыў 1:5.

| | |
|---|---|
| 1. Лакаматыў | 16 |
| 2. Баранавічы | 15 |
| 3. ЗЛіН | 14 |
| 4. Ліда | 13 |
| 5. Ведрыч-97 | 13 |
| 6. Граніт | 9 |
| 7. Смаргонь | 9 |
| 8. Маладзечна | 8 |
| 9. Камунальнік | 7 |
| 10. Бяроза | 6 |
| 11. Вертыкаль | 6 |
| 12. Хімік | 6 |
| 13. Верас | 4 |
| 14. Дынама-Юні | 3 |
| 15. Тарпеда-Кадзіна | 2 |
| 16. Днепр-ДЮСШ-1 | 1 |

Бамбардзіры: Літвінчук – 8; Мартынаў (абодва – Лакаматыў) – 6.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПЛАВАННЕ

## Прызы чысцінцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Трое чысцінцаў вярнуліся прызёрамі з міжнароднага турніру дзіцячых каманд па плаванні, што прайшоў у Гродне.**

Сёлета на спаборніцтвах сустрэліся прадстаўнікі 22 дзіцячых калектываў 3 узроставых груп (1991-1993 гады нараджэння). Першай радасць перамогі адчула **Таня Паўловіч**. Яна апярэдзіла ўсіх сваіх сапернiц па малодшай узроставай групе ў плаванні дэльфінам (батэрфляем) на 50 метраў і паказала вынік 39,86 секунды. Яшчэ раз яна ўзышла на п'едэстал гонару (на другую прыступку) пасля заплываў на дыстанцыі 100 метраў вольным стылем.

У старэйшай узроставай групе **Саша Маўрын** перамог на дыстанцыі 100 метраў на спіне з вынікам 1.12,08. На дыстанцыі 200 метраў на спіне ён фінішаваў другім, у плаванні батэрфляем на 50 метраў – трэцім. Тры ўзнагароды турніру заваяваў таксама **Кірыл Паўлавец**: на стометроўцы комплексным плаваннем і батэрфляем быў трэцім, на ўдвая карацейшай дыстанцыі батэрфляем – другім.

**Уладзімір ЗВЕРНІК.**

■ АНОНС

**29 мая. 18-30. Смаргонь – Ліда.**
+2=0-2 4-4. Летась 2:1 (Валавік – 2) на выездзе і 2:0 (Гірко, Карасёў) дома.

**29 мая. 15-00. Маладзечна, стадыён ДЮСШ-2. ДЮСШ-2 (Маладзечна) – СДЮШАР-3 (Пінск).**

**29 мая. Днепр-ДЮСШ-1 (Рагачоў) – Маладзечна.**
+0=2-0 0-0. Апошні матч – 0:0 дома 15 жніўня 2000 года.
Кубак (1992 год, 1/8 фіналу) – 2:1 на выездзе.

■ ФУТБОЛ. МІЖНАРОДНЫЯ ТУРНІРЫ

# 3 Саколкі з Кубкам

**МАЛАДЗЕЧНА. Другое месца заняла 22 мая ў міжнародным футбольным турніры, які праходзіў у Саколцы на Беласточчыне, каманда "Маладзечна–Беларусь".**



Мікалай Кудзін, арганізатар паездкі маладзечанскай дэлегацыі ў Саколку на Беласточчыне, з прывезеным адтуль кубкам за спартыўныя дасягненні, расказвае аб візіце ў Польшчу. Каманда футбалістаў з Маладзечна заняла ў міжнародным адкрытым паланійным турніры ў Саколцы 2 месца, саступіўшы толькі гаспадарам, якім, як вядома, і сцэны дапамагаюць.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Тры дні дэлегацыя з Маладзечна была ў Сакольскім павеце па запрашэнні павятовага старосты Францішка Будроўскага і ўдзельнічала ў штогоднім свяце горада. Дэлегацыя прадставіла культурную праграму – Алена Краўцыва, удзельніца фальклорнага гурта "Сябрыны", выступіла з падборкай беларускіх песень.

Не першы раз маладзечанцы выязджаюць у Саколку на свята горада. І хаця футбольнае спаборніцтва ў праграме пазначанае як турнір паланійных каманд, Мікалай Кудзін, пастаянны кіраўнік дэлегацыі і старшыня "Сябрыны", сказаў карэспандэнту "РГ", што маладзечанцы былі там менавіта як прадстаўнікі суседняга беларускага народа.

Усяго ў турніры ўдзельнічала 5 каманд з Беларусі, Польшчы і Літвы. Маладзечанцы не зведалі ніводнага паражэння, згуляўшы ўнічыю толькі з гаспадарамі, якія па розніцы мячоў і занялі першае месца. Лепшымі гульцамі ў нас сталі **Дзмітры Янэль** і **Дзмітры Баранаў**, удары якіх былі выніковымі. Каманда маладзечанцаў была на свяце Саколкі 3 разы, і ўсе 3 разы займала другое месца.

На думку арганізатараў свята, такія міжнародныя сустрэчы, якія не абмяжоўваюцца выступленнямі артыстаў, а даюць магчымасць выйсці на стадыён і пазмагацца ў роўнай барацьбе за мяч, робяць больш трывалымі сувязі паміж Польшчай і партнёрамі з-за мяжы. Сяррод якіх і маладзечанцы.

**Мікола ГАЙДУК.**

**Даведка.** Сакольскі павет мяжуе з Гродзенскім і Бераставіцкімі раёнамі. Знаходзіцца ў маляўнічай частцы Белавежы. На тэрыторыі павета знаходзіцца геаграфічны цэнтр Еўропы (Сухаволя). Агульная колькасць жыхароў каля 80 тысяч чалавек.

**Табло**

■ ФУТБОЛ, АМАТАРЫ

**У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці ДЮСШ-2 (Смаргонь) знаходзіцца ў групе лідэраў. Матчы – "Нона" (Воранава) 8:1 дома, "Хімік" (Гродна) 0:1 на выездзе, "Ваўкавыск" 4:1 дома. Баланс: +3=0-1 15-3.**

У чэмпіянаце Мінскай вобласці "Камунальнік" (Маладзечанскі раён) пакуль набраў адно ачко. Матчы – "Лакаматыў" (Барысаўскі раён) 2:4 дома, "Цукракамбінат" (Нясвіжскі раён) 1:2 на выездзе, "Энэргетык-ЦЭЦ-5" (Пухавіцкі раён) 0:0 дома. Баланс: +0=1-2 3-6.

У юнацкіх спаборніцтвах "Крыштальны мяч" ДЮСШ-2 (Маладзечна) выступае даволі паспяхова. Матчы – "Дынама" (Мінск) 0:4 на выездзе, ДЮСШ-5 (Баранавічы) 5:3 дома, СДЮШАР-5 (Мінск) 2:1 дома. Баланс: +2=1-1 7-8.

■ БАСКЕТБОЛ

**ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА. Чэмпіянат Мінскай вобласці сярод юнакоў 1989-90 г.н. прайшоў у два этапы з раз'ездамі.**

У лютым дзевяць каманд вызначылі чацвёрку фіналістаў. У іх лік увайшлі прадстаўнікі рэгіёну з Валожына, Маладзечна і Вілейкі, а таксама нясвіжцы. На працягу вясенніх месяцаў чацвёрка правяла туры ў кожным горадзе. Валожынцы, якіх вёў трэнер **Леанід Хвядчэня**, заўсёды станавіліся пераможцамі. Па агульных выніках з іх складу лепшымі сталі абаронца **Уладзіслаў Магільніцкі**, нападаючы **Ігар Шаулюк** і снайпер **Юрый Чарапанаў**.

■ ФУТБОЛ, ЗБОРНЫЯ

**"Маладзёжка" 1981-83 г.н. стартавала 27 мая ў Германіі на фінальным турніры да чэмпіянату Еўропы матчам супраць каманды Італіі. Наперадзе сустрэчы ў групе з Харватыяй і Сербіяй і Чарнагорыяй, а потым двое лепшых згуляюць у паўфінале. Каб трапіць на Алімпіяду, трэба ўвайсці ў тройку прызёраў.**

Павел Бяганскі ўключаны ў склад пад пастаянным №18. На жаль, **Алег Попель** не змог паехаць на "Еўропу", бо атрымаў траўму ў фінальным матчы за Кубак краіны, дзе, дарэчы, яго "Гомель" саступіў салігорскаму "Шахцёру" ў дадатковы час. Пад №3 выступіць гулец барысаўскага БАТЭ **Дзмітрый Молаш**, які ў 1999 годзе правёў 8 матчаў у складзе "Маладзечна".

Юнакі 1985-86 г.н. выступілі ў Італіі 19-23 мая ў другім кваліфікацыйным раўндзе да чэмпіянату Еўропы.

Былі паражэнні ад чэхаў і гаспадароў, нічыя з ізраільцянамі. У выніку – апошняе месца ў групе.

Былы выхаванец смаргонскай ДЮСШ-2, футбаліст мінскага "Дынама" **Леанід Ковель**, які на год маладзейшы за партнёраў, прыняў удзел ва ўсіх матчах.

Хлопцы 1988 г.н. выступілі на турніры ў Малдове 10-14 мая.

Беларусы правялі чатыры матчы і занялі ў выніку першае месца з шасці ўдзельнікаў. У складзе быў выхаванец смаргонскай ДЮСШ-2 **Вячаслаў Замара**, які цяпер вучыцца ў сталічным РВАРы. Ён выходзіў на замену ў двух сустрэчах, у тым ліку фінальнай супраць балгараў. Дарэчы, яна скончылася ўнічыю, таму прабіваліся пасляматчавыя пенальці, адзін з якіх рэалізаваў наш зямляк.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ БАРАЦЬБА САМБА

## Кіпцэвіч – чэмпіён Еўропы

**СМАРГОНЬ. Трое былых выхаванцаў СДЮШАР заваявалі сярод юніёраў (1986 г.н. і меншыя) медалі кантынентальнага чэмпіянату. Спаборніцтвы сабралі ў літоўскім Шаўляі 20-23 мая прадстаўнікоў 28 краін.**

**Андрэй Кіпцэвіч** (да 87 кг), па інфармацыі трэнера СДЮШАР Аляксандра Вахавякастарэйшага, перамог у чатырох схватках, што называецца, "пад ноль". Гэта значыць, ні разу не дазволіў праціўнікам, у тым ліку фіналісту-расіяніну, правесці супраць сябе ніводнага прыёму, які б пайшоў у ачковы залік.

**Вольга Шутовіч** (да 48 кг) заняла другое месца, а **Аляксандр Вахавяк-малодшы** (звыш 87 кг) – трэцяе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС

**МЯДЗЕЛ. Каманда Мядзельскага раёна выступала ў фінале абласных спаборніцтваў па настольным тэнісе сярод дзяцей і падлеткаў.**

Найлепей там выступілі хлопцы — яны занялі трэцяе месца.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ ПАРАДЫ САДАВОДУ І АГАРОДНІКУ

# Што і як рабіць у чэрвені

У чэрвені адцвітаюць пладовыя дрэвы, назіраецца інтэнсіўны рост пладоў і іх асыпанне. Тлумачыцца гэта тым, што пладоў завязалася ў некалькі разоў больш, чым лісце і карані могуць падаць да іх пажыўных рэчываў і вады. Таму карысна абарваць і лішнюю завязь, пакінуць 1-2 у суквецці. Падкарміць дрэвы гноевай жыжкай (1:1), птушыным памётам (1:5) або аміячнай салетрай (25-30 г на 10 л вады). Раствор угнаенняў уносяць у канаўкі на акружнасці прыствольнага круга або ў лункі, а на ягадніках – у канаўкі ўздоўж радоў. Рыхтуюць падпоры. Суніцы, каб не забрудзіць ягад, у чэрвені і ліпені не падкармліваюць. Паліваюць толькі пры вельмі сухім надвор'і, лепш за ўсё напускам па неглыбокіх канаўках, каб не замачыць лісце і ягады. Міжрадкоўі мульчыруюць або ўкладваюць пладаносныя суквецці на рагаткі, шпалеры, пластмасавыя падстаўкі. Выпалваюць пустазелле, рыхляць глебу.

У чэрвені найбольш праяўляюць сябе хваробы пладовых дрэў (парша, гніль), інтэнсіўна атакуюць сады шкоднікі (пладажэркі, тлі, медзяніцы). Супраць іх выкарыстоўваюць адвары і настоі тытуню, махоркі, палыну. Прымяняюць іх пасля цвіцення або пасля ўтварэння завязі. Супраць медзяніц, пакуль яны яшчэ не пачалі яйцаклада, дрэвы вечарам акурваюць спальваннем сухой травы, прэлага сена, хвойных іголак, дадаючы 1,5-2 кг тытунёвага пылу на сотку сада.

Згодна з месяцавым календаром, убіраюць суніцы, парэчкі, чарэшні, раннія яблыкі, а догляд за пасадкамі і ахову іх ад шкоднікаў праводзяць 3, 4, 9-11, 18-20 і 25, 26.

Для агароднікаў у чэрвені па месяцавым календары ёсць неспрыяльныя для сяўбы і пасадкі ўсіх культур дні – 3, 6-8, 18, 20-23. У гэтыя дні мэтазгодна прапольваць і знішчаць пустазелле, абараняць расліны ад шкоднікаў і хвароб.

Супраць капуснай бялянкі, капуснай соўкі, тлі, молі і кляшчоў расліны на агародзе апырскваюць настоем бульбоўніку, дзядоўніку (лопуху). Настой апошняга прымяняюць у перыяд вылету матылёў і адраджэння вусеняў. Апырскваюць капусту 3-4 разы з перапынкамі ў 7-8 дзён. Адвар з пасынкаў памідораў прымяняюць супраць кляшчоў, клапоў, лугавых матылькоў, блошак. Расліны апырскваюць толькі вечарам.

Сёлета май быў халодным і, магчыма, не ўсе агароднікі засеялі свае ўчасткі, не высадзілі ў адкрыты грунт расаду агуркоў і памідораў. Трэба гэта зрабіць у пачатку чэрвеня. У першыя дні месяца высяваюць і высаджваюць больш холадаўстойлівыя культуры, а пасля 8-10 чэрвеня, калі замаразкі ўжо малаверагодныя, высаджваюць расаду і высяваюць насенне ў адкрыты грунт агуркоў, памідораў і іншых цеплалюбівых культур. Падкармліваюць і паліваюць расліны ў залежнасці ад іх знешняга выгляду.

Найбольш спрыяльныя дні для сяўбы і пасадкі: агуркоў – 19, 20 (да 18 гадзін) і 26-28; памідораў і зеленявых культур – 1, 2 і 19; баклажанаў, кабачкоў, гарбузоў і перцу – 19 і 26-28; капусты – 1,2; рэпы, рэдзькі, буракоў, бручкі, морквы, цыбулі – 5, 6, 11-13 і 15 чэрвеня.


Агранам Альбін МАКАРЭВІЧ.

■ АДУКАЦЫЯ

## Студэнтаў – на кантракт

**МІНСК. У Беларусі плануецца ўвесці кантрактную сістэму падрыхтоўкі спецыялістаў.**

Такія захады будуць закладзены ў праекце новага закона «Аб вышэйшай адукацыі»: у дагаворы будуць акрэслены правы і абавязкі бакоў. Падобная практыка ўжо прымяняецца ў прыватных ВНУ і на платных аддзяленнях дзяржаўных ВНУ.

**Паводле БелаПАН.**

## Кінатэатр «Радзіма»



**28-30 мая. "Сіямскія блізняты"** ("Затрымаўся ў табе"), ЗША, камедыя – у 17.00 і 21.00.
**28-30 мая "Невыносная жорсткасць"**, ЗША, камедыя. Сеансы: 28 мая – у 19.00, 29 і 30 мая – у 15.00 і 19.00.
**31 мая - 6 чэрвеня. "Блуберы"**, ЗША, 2 серыі – у 18.40. "Оптам дзешавей", ЗША, камедыя – 17.00 і 21.10.
Кожную суботу ў 21.00 – відзадыскатэка. Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні – штодзённа, акрамя панядзелка.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

# Прыз – відэакасета

У рэдакцыю прыйшло 20 адказаў. Усе правільныя – бранясосец. На гэты раз пашчасціла Людміле Паўналаа з Маладзечна. Запрашаем у рэдакцыю па сертыфікат на відэакасету, атрымаць якую можна ў Маладзечне ў пунктах продажу аўдыё- і відэатавараў на калгасным рынку, міні-рынку "1000 дробязяў", у магазінах "Дзіцячы свет" і "Пасаж".

Наступнае заданне. Трэба адгадаць імя (пытанні 1-3) і прозвішча (пытанні 4-14) беларускай актрысы. Да кожнага пытання прапануюцца 3 адказы. Выберыце правільны. З першых літар слоў-адказаў трэба скласці імя і прозвішча вядомай актрысы.

1. Які з гэтых дакументаў дае ўпаўнаважаным асобам права на арышт падазронага? (Мандат. Ордэр. Вэксаль.)

2. 2. Якая з гэтых хвароб небяспечная для буйной рагатай жывёлы? (Свінка. Мігрэнь. Ящчур.)

3. Якая з пералічаных планет Сонечнай сістэмы мае найменшую колькасць спадарожнікаў? (Зямля. Марс. Сатурн.)

4. Хто з пералічаных жывых істот не адносіцца да роду кракадзілаў? (Гавіял. Кайман. Алігарх.)

5. Што паводле вядомага верша купіла на базары Муха-Цакатуха? (Пыласос. Самавар. Чайнік.)

6. Якая з гэтых рэк нясе свае воды ў Балтыйскае мора? (Одра. Рэйн. Эльба.)

7. Які з гэтых курортных гарадоў знаходзіцца ў Крыме? (Адлер. Еўпаторыя. Піцунда.)

8. З якімі птушкамі Ванд Дэйк намаляваў на сваёй знакамітай карціне Мадонну? (Галубы. Курапаткі. Буслы.)

9. Які з гэтых металаў быў адкрыты пазней за іншыя? (Цынк. Свінец. Жалеза.)

10. Мужчынская зборная Беларусі па адной са спартыўных гульняў двойчы ўдзельнічала ў Алімпійскіх гульнях. Назавіце гэтую гульню. (Тэніс. Валейбол. Хакей.)

11. Як называецца дрэва, на якім растуць вінныя ягады? (Інжыр. Піпія. Кіпарыс.)

12. Якое з гэтых слоў у англічан азначала "скураны мяшок"? (Бюджэт. Казна. Рэнта.)

13. Якая з гэтых мер даўжыні абазначала самы кароткі адрэзак? (Аршын. Вяршок. Сажань.)

14. У замку якога беларускага горада на зыходзе 14 стагоддзя жыў выгнаны з Залатой Арды хан Тахтамыш? (Заслаўе. Нясвіж. Ліда.)

Адказы можна дасылаць у рэдакцыю і давяць па тэлефоне да 8 чэрвеня.


Конкурс вядзе Мікола ЛІПСКІ.

■ ІМЯНІНЫ

**28 мая. Праваслаўныя**: Ісая, Пахома. **Каталіцкія**: Аўгусціна, Вільгельма, Яраміра.
**29 мая. Праваслаўныя**: Музы, Аляксандра, Віта, Георгія, Касьяна, Лаўрына, Мадэста, Фёдара, Яфрэма. **Каталіцкія**: Магдалены, Тэадозіі.
**30 мая. Праваслаўныя**: Еўдакіі, Андроніка, Сцяпана. **Каталіцкія**: Фелікса, Фердынанда, Яна.
**31 мая. Праваслаўныя**: Аляксандры, Клаўдзіі, Матроны, Фаіны, Хрысціны, Юліі, Андрэя, Багдана, Давыда, Дзяніса, Паўла, Паўліна, Пятра, Сямёна, Фядота. **Каталіцкія**: Анелі, Петранелы.
**1 чэрвеня. Праваслаўныя**: Акакія, Дзмітрыя, Івана, Ігната, Карнілы, Патрыкія, Сяргея. **Каталіцкія**: Кандрата, Якуба.
**2 чэрвеня. Праваслаўныя**: Аляксея, Цімафея. **Каталіцкія**: Марыі, Маркела.
**3 чэрвеня. Праваслаўныя**: Алены, Канстанціна, Касьяна, Міхаіла, Фёдара. **Каталіцкія**: Клацільды, Лешка.

# ВІНШАВАНКІ

**Вячаслаў Былінскі**, сардэчна віншуем цябе з днём нараджэння!!!



Дарагі наш, няхай твая мэтанакіраванасць дапаможа дасягнуць сапраўдных поспехаў у жыцці! Сонечнага табе неба, спадарожнага ветру, бяспечных дарог і вялікага ўзаемнага кахання!

*Ад родных і сяброў.*

**Рэната Анатольеўна Мураўка**,
шчыра віншуем цябе з 23-годдзем!!!
Хай будзе век шчаслівым –
ад нас усіх паклон!
Здароўя табе, родная,
блакітных зычым дзён.
Багацце тваё вечнае ў шчырай цеплыні.
Ты, самая сардэчная,
ад нас любоў прымі.
*Ад Славы, Сашы, Алега,*
*Светы і Насці.*

**Братан**! З днём нараджэння! Здароўя, шчасця, поспехаў, аптымізму табе на доўгія гады! *Вадзім.*

**Вераніку Феліксаўну Бандаронак** віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, прыгажосці і кахання. *Сям'я Цішко.*

**Антона Кавальчука** з Ілы віншуем з 16-годдзем! Жадаем моцнага здароўя, шчасця і поспехаў у вучобе. *Мама, тата, бабуля і дзядуля.*

**Адама Пятровіча Брыля** з Ілы віншуем з 79-годдзем! Жадаем ад Бога здароўя, ад сонца – цяпла, ад людзей – дабра. *Дочкі, унукі, брат Уладзімір.*

**Валянціну Максімаўну Апяцёнак**, дарагую матулю, віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя і ўсяго найлепшага. *Твае дзеці і ўнукі.*

**Васіля Далеўскага** віншуем з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, поспехаў у працы, сямейнага дабрабыту і кахання. *Твае родныя.*

**Вольгу Мількоту** віншую з 18-годдзем! Жадаю моцнага здароўя, поспехаў у вучобе, кахання, вечнай маладосці. *Сяброўка Варвара.*



# ЗНАЁМСТВЫ

Мужчына, 30/180, з жыллём, пазнаёміцца з адукаванай, прыстойнай дзяўчынай, можна з сельскай мясцовасці, для стварэння сям'і. 222410, Вілейка-1, п/п №05009393.

Прывабная жанчына, 40/79/163, жадае пазнаёміцца з добрым, прыстойным, жыццярадасным мужчынам. 222310, Маладзечна-4, п/п МС 0330999.

Вольга, 39/164, медык, ёсць сын, пазнаёміцца з адзінокім, сур'ёзным мужчынам. Смаргонь, галоўпаштамт, п/п КН 0460320 ці (8-029) 7867172.

## Купон 22

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!
Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

# ТРАНСПАРТ



**ПРАДАМ**

- Аўдзі-80, 1988 г.в., 1,8і, 2400 у.а. Т. (8-029) 7043977.
- Аўдзі-80, 1989 г.в., дызель. Т. (8-029) 6300688.
- Аўдзі-80 Б4, 1993 г.в., нядорага. Т. (8-029) 5514791.
- Аўдзі-80, 1990 г.в., 1,8К. Т. у Вілейцы 53726, (8-029) 7748108.
- Аўдзі-80 "купэ", 1982 г.в., 1,8Б, 950 у.а. Т. у Маладзечне 62410.
- Аўдзі-80 В-4 універсал, 1994 г.в, 2,0Б. Т. (8-029) 6515439.
- Аўдзі-100, 1985-86 г.в., 2,3і, 2100 у.а. Т. (8-029) 6990276, (8-029) 6436360.
- БМВ-316і, 1992 г.в., толькі з Германіі; Нісан Сані, 1991 г.в., 1,4б. Т. у Маладзечне 37624.
- ВАЗ-2101, 1981 г.в., рамонт не патрабуецца, 600 у.а., торг. Т. у Вілейцы 56534.
- ВАЗ-2101, 1980 г.в., прабег 60 тыс., на хаду. Т. у Маладзечне 63948.
- ВАЗ-21011, 1981 г.в., бэжавы, торг пры аглядзе. Т. у Маладзечне 53783 (службовы), 45701 (пасля 18.00).
- ВАЗ-2103, 1,6 бензін, зялёны, арыг. цюнінг, кузаў 06-1997 г., фаркоп, 1200 у.а. Т. у Вілейцы 45260.
- ВАЗ-2104, 1986 г.в., у добрым стане, 1050 у.а.; ВАЗ-21011, 1979 г.в., 450 у.в., торг. Т. у Вілейцы 35246, (8-029) 6635246.
- ВАЗ-2105, 1991 г.в., 1100 у.а. Т. (8-029) 6948256.
- ВАЗ-21053, 1984 г.в, 700 у.а. Т. у Вілейцы 46465, (8-029) 5580087.
- ВАЗ-2106, 1987 г.в., 1995 г.в. Т. (8-029) 6853905.
- ВАЗ-21063, 1992 г.в., сіні, газ-бензін, добры стан, 1000 у.а., торг. Т. у Маладзечне 98054 (19.00-21.00, Яўген).
- ВАЗ-2107, 1984 г.в., 850 у.а. Т. у Маладзечне 96668.
- ВАЗ-21074, 1994 г.в. Т. у Мядзеле 42615.
- ВАЗ-2108, 1986 г.в., у добрым стане. Т. у Вілейцы 51430.
- ВАЗ-2108, 1993 г.в., 1,3Б, чырвоны, л/д, родная фарба, зімой не эксплуатавалася, ідэальны стан. Т. у Вілейцы 33878.
- ВАЗ-2121 (Ніва), 1980 г.в. Т. у Вілейцы 54098.
- Вольву-440 GL, 1989 г.в., 1,7 газ-бензін. Т. у Маладзечне 96730.
- ГАЗ-53 дызельны ці памяняю на трактар, можна без дакументаў. Т. (8-029) 6434876.
- Гольф-2, 1,6Д. Т. у Вілейцы 35436.
- Гольф-3, 1994 г.в., 1,9 ТД, магчыма, у крэдыт. Т. у Маладзечне 63067, (8-029) 7678713.
- ЕРАЗ 762-В, 1984 г.в., ТА 2004 г., у добрым стане, 200 у.а. Т. у Вілейцы 57403 (увечары).
- М-2140, 1987 г.в., добры рабочы стан. Т. у Маладзечне 76588 (пасля 20.00).
- Мазду-323 седан, 1994 г.в., 1,5і; Форд Фіесту, 2003 г.в., 1,3і, на гарантыі. Т. (8-029) 4002067.
- Мазду-626, 1986 г.в., бензін, 5КПП, велюр, ц/з, эл/люстэркі, г/у, круіз-кантроль, ёсць дробныя недахопы, 950 у.а. Т. (8-029) 6398087.
- Мазду-626, 2,0Б, спорт-купэ, 850 у.а.; ВАЗ-2101, поўны капрамонт, новая гума, 650 у.а. Т. у Вілейцы 57768, (8-029) 7674127.
- Мазду-626, 1984 г.в., 1,6К, 900 у.а., торг. Т. (8-029) 7041695.
- Мазду-626, 1991 г.в., 1,8Б, ц/з, г/у, сігналізацыя, тэрмінова. Т. у Маладзечне 68922, (8-029) 6460160.
- Мерседэс-190Е, 1984 г.в., 2,0і, ц/з, г/у, люк, чорны металік. Т. у Вілейцы 54492.
- Мерседэс-200Д, нядорага. Т. у Вілейцы 33521, (8-029) 6959844.
- Мерседэс Бэнц 190, 1988 г.в., бензін, ц/з, сігналізацыя, г/у руля, эл/люк, эл/люстэркі, музыка, ідэальны стан, сярэбраны металік, 2750 у.а., торг, тэрмінова. Т. у Маладзечне 98054 (Яўген).
- Нісан Прэм'еру Д, 1993 г.в. Т. у Маладзечне 32600.
- Опель Амегу, 1987 г.в., 1,8Б, 1200 у.а. Т. у Вілецы 33249.
- Опель Астру, 1994 г.в., 1,4, белы, універсал, 2 ПБ, імабілайзер, 3000 у.а. Т. (8-029) 6753160.
- Опель Астру (караван), 1996 г.в, сіні металік, навароты. Т. у Вілейцы 32739.
- Опель Астру, 1995-96 г.в., 1,7 ТД, АВС, г/у, ц/з, 2 airbag, люк, карэктар фар, стэрэа. Т. у Вілейцы 56378, (8-029) 7656378.
- Опель Астру, 1994-95 г.в., 1,7 ТД, універсал, 3400 у.а. Т. у Маладзечне 30527.
- Опель Вектру, 1992 г.в., 1,6, АБС, г/у, ц/з, эл/люк, хэтчбэк, 2000 у.а. Т. (8-029) 6803752.
- Опель Кадэт, 1983 г.в., дызель, 5-дзверны, добры стан, 650 у.а. Т. у Вілейцы 58381, (8-029) 6275394.
- Опель Кадэт, 1982 г.в., 1,3 карб., вішня, рухавік з Германіі, добры стан, 750 у.а. Т. у Вілейцы 33103 (пасля 18.00).
- Опель Кадэт, 1987 г.в., 1,3Б, 3-дзверны, добры стан. Т. у Вілейцы 46268.
- Опель Рэкорд, 1981 г.в., 2,0 бензін. Т. (8-029) 7766920.
- Пэжо-309, 1991 г.в., можна асобна па запчастках. Т. у Вілейцы 75193.
- Рэно-11, дызель, 1,6. Т. у Вілейцы 57379 (увечары).

